Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 40 (4789) 10 кастрычніка 2014 г.



Калі табе сямнаццаць… 6



Праўда дзеда Манюкіна 7



Феномен Вежнавец 13



Паглыбімся?.. 16

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста РСФСР Аляксандра Міхайлава з 70-годдзем. «Сыграныя Вамі ролі сталі класікай савецкага і расійскага мастацтва, заваявалі прызнанне і любоў публікі, — адзначана ў віншаванні. — Няхай Ваша праца яшчэ доўгія гады прыносіць радасць шматлікім прыхільнікам, спрыяе развіццю культурных сувязей паміж нашымі народамі».

✔ Загадчык кафедры славянскіх літаратур Белдзяржуніверсітэта, прафесар, старшыня Таварыства беларуска-сербскай дружбы Іван Чарота ўзнагароджаны ў Бялградзе прэміяй Фонду братоў Карыч за ўмацаванне культурных і духоўных сувязей паміж беларускім і сербскім народамі. Сёлета лаўрэатамі гэтай прэміі сталі Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Уладзімір Пуцін, віцэпрэм'ер Азербайджана, пісьменнік, доктар філалагічных навук, прафесар Эльчын Эфендзіеў, сербскі акцёр і рэжысёр Драган Белогрліч.

✔ Помнік народнаму артысту СССР і Беларусі, заснавальніку ансамбля «Песняры» Уладзіміру Мулявіну адкрыты ў Екацерынбургу. Ва ўрачыстай цырымоніі ўзялі ўдзел міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў, губернатар Свярдлоўскай вобласці Яўген Куйвашаў, артысты ансамбля «Песняры», вядучыя дзеячы культуры і мастацтва Сярэдняга Урала, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса.

✔ «Кінастудыя «Беларусьфільм» і французская кінакампанія CINEMA SOLEIL заключылі Мемарандум аб сумеснай вытворчасці поўнаметражнага ігравога фільма «Калі не цяпер, то калі?» сербскага рэжысёра Эміра Кустурыцы паводле аднайменнага рамана італьянскага паэта, пісьменніка і перакладчыка Прыма Леві. Дзеянне твора адбываецца ў час Другой сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі.

✔ Учора пачалося Міжнароднае свята арганнай музыкі «Арганы Еўропы гучаць у Гродне», якое працягнецца да 20 лістапада. Выканаўцы будуць даваць па адным канцэрце на ўнікальным органе «Magnus Silesia Royal», усталяваным у Гродзенскім дзяржаўным музычным каледжы.

✔ Міжнародны форум «Традыцыйная культура як стратэгічны рэсурс устойлівага развіцця грамадства» пройдзе ў Магілёве 15 — 16 кастрычніка ў фармаце святочных мерапрыемстваў з нагоды 75-годдзя Магілёўскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы. У форуме возьмуць удзел дзеячы культуры і мастацтва Беларусі, Расіі, Францыі, Літвы, Азербайджана, Арменіі, Румыніі.

✔ Выстаўка рэпрадукцый работ сучасных беларускіх мастакоў адкрылася на агароджы мэрыі 16-й акругі ў Парыжы ў межах арт-праекта *Zabor*. Гэтая экспазіцыя падарожнічае з горада ў горад і знаёміць пасрабавальнага і цікаўнага французскага гледача з выяўленчым мастацтвам Беларусі.

✔ У Нясвіжы на наступным тыдні будуць шукаць скарбы Радзівілаў. Абследаваць тэрыторыю, дзе, як мяркуецца, могуць быць закапаны фамільныя каштоўнасці, будуць спецыялісты з Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Назіраць за пошукамі змогуць і наведвальнікі Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж».

*Фота Аляксандра Дзмітрыева*



# «ТЭАРТ». Гэта мастацтва!

*Сцэна са спектакля «Смех у цемры» (Данія).*

Міжнародная праграма тэатральнага форуму мастацтва «ТЭАРТ» распачалася ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь танцавальнай прэм'ерай — балетам Ігара Стравінскага «Жар-птушка» з рэпертуару легендарных «Рускіх сезонаў» Сяргея Дзягілева ў пастаноўцы народнага артыста Расіі Андрыса Ліепы.

«ТЭАРТ» традыцыйна прадстаўляе самыя гучныя і знакамітыя сусветныя пастаноўкі, акцэнт — на эксперымент і наватарства. Гэтым разам упершыню ў форуме ўзялі ўдзел тэатры з Даніі і Славеніі. Дацкі «Гатэль ПраФорма» здзейсніў інтэрпрэтацыю рамана Уладзіміра Набокава «Смех у цемры», ператварыўшы звычайнае тэатральнае прадстаўленне ў сапраўдны твор візуальнага і аўдыямастацтва, што дазволіла гледачам стаць паўнавартаснымі сведкамі гісторыі жадання і падману. Нацыянальны славенскі тэатр прывёз дзёрзкі і іранічны «Крэйзі лакаматыў» па «п'есе без маралі» польскага авангардыста Станіслава Віткевіча. Дарэчы, пастаноўка была адзначана Гран-пры 48-га Тэатральнага фестывалю ў Марыборы за лепшы спектакль і лепшае музычнае афармленне.

У межах тэатральнага фестывалю былі прадстаўлены ўладальнікі звання «Лепшы латышскі спектакль» апошніх гадоў: правакацыйны «Ставангер» Ліепайскага тэатра ў пастаноўцы аднаго з самых яркіх і бескампрамісных сучасных расійскіх рэжысёраў Канстанціна Багамолава, а таксама выбітная работа рэжысёра Алвіса Херманіса «Абломаў» па класічным рамане Івана Ганчарова (Новы рыжскі тэатр). Маскоўскі драматычны тэатр імя А. С. Пушкіна выступіў са спектаклем без слоў «Мацярынскае поле» па аднайменнай аповесці Чынгіза Айтматава.

Уражвае польская праграма. «Івона, прынцэса Бургундская» Тэатра імя Яна Каханоўскага ў Аполе балансуе на мяжы тэатральнага прадстаўлення і кінастужкі, нават афармленне спектакля пераносе гледачоў на здымачную пляцоўку.

Важкім унёскам у тэатральнае мастацтва абяцае стаць пастаноўка «Перамешчаныя твары: жанчыны» берлінскага праекта «Мультыкультурны горад», створаная на аснове кнігі «У вайны не жаночы твар» Святланы Алексіевіч.

Нечаканае прачытанне рускай і савецкай класікі прапануюць два расійскія тэатры. Маскоўскі тэатр пад кіраўніцтвам Алега Табакова перакажа «Апавед пра шчаслівую Маскву» па рамане Андрэя Платонава. Міндаўгас Карбаўскіс атрымаў за працу над гэтай пастаноўкай «Залатую Маску» за лепшую рэжысуру, а Ірына Пегава — за лепшую жаночую ролю. Арыгінальную трактоўку чэхаўскай «Чайкі» прадэманструе Віленскі гарадскі тэатр і выбітны літоўскі рэжысёр Оскарас Каршуновас.

Завершыцца «ТЭАРТ-2014» прэм'ерай у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы — спектаклем «Тата» па п'есе «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў» маладога беларускага драматурга Дзмітрыя Багаслаўскага. Рэжысёрам гісторыі пра вечныя каштоўнасці чалавечага жыцця выступіла Кацярына Аверкава. Спектакль пастаўлены да юбілеяў выбітных акцёраў Купалаўскага тэатра — Генадзя Аўсяннікава і Генадзя Гарбука.

**Таццяна ШЧЭРБА**

# Толькі разам!

**Тут помнікі паэтам стаяць на ўсіх галоўных плошчах сталіцы, у тым ліку і рэпрэсіраванаму ў 30-я гады мінулага стагоддзя Гусейну Джавіду. Тут банкі два-тры разы на год выдаюць зборнікі твораў айчынных класікаў. Менавіта тут ужо ў чацвёрты раз адбыўся Міжнародны гуманітарны форум, які сабраў выбітных культурных дзеячаў практычна з усяго свету. Так, гэта ўсё пра Баку…Сярод амаль 500 гасцей з больш як 60 краін свету Беларусь прадстаўлялі галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» Таццяна Сівец і дырэктар Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Аляксандр Пятровіч.**



Фота з сайта 1news.az

Вітаючы ўдзельнікаў форуму, Прэзідэнт Азербайджана Ільхам Аліеў падкрэсліў важнасць узаемнай павагі паміж краінамі ў сённяшнім свеце: «Кожная краіна мусіць з павагай ставіцца і да выбару іншай — як у міжнароднай сферы, так і ў рэчышчы міжрэлігійнага дыялогу, у гуманітарнай галіне. Усё гэта ўзаемазвязана». Шмат гаварылася падчас пленарнага пасяджэння пра гарманічныя стасункі чалавека і прыроды, пра складнікі нацыянальнай ідэнтычнасці. Так, былы Прэзідэнт Эстонскай Рэспублікі Арнольд Руйтэль у сваёй прамове адзначыў: «Нацыянальныя каштоўнасці, традыцыі і родная мова — вось перадумовы для фарміравання сучаснага грамадства». Яго думку прадоўжыў старшыня Выканаўчага камітэта ЮНЕСКА Махамед Самех Амр, які пабачыў прычыну недаверу паміж людзьмі і краінамі ў адсутнасці ведаў. «Трэба распачынаць асвету!» — заклікаў выступоўца.

Паслухаць на міжнароднай гуманітарнай пляцоўцы было каго. Слова мелі нобелеўскія лаўрэаты розных гадоў па фізіялогіі і медыцыне, хіміі, фізіцы, эканоміцы, палітычныя і культурныя дзеячы, выдаўцы ды літаратары.

Найбольшую цікавасць выклікаў сярод удзельнікаў форуму «круглы стол» на тэму «Гуманізм як базавая каштоўнасць эпохі постмадэрну», дзе абмяркоўваліся шляхі пераасэнсавання азначанага паняцця ў кантэксце глабальнага свету. Што можна зрабіць, разважалі ўдзельнікі пасяджэння. І прыходзілі да высновы, што менавіта гуманізм мусіць стаць новай базай для развіцця стасункаў паміж народамі. Даследчыкі высвятлялі таксама, як адбываецца фарміраванне новага ўніверсалізму і прасоўванне талерантнасці як самадастатковай маральнай каштоўнасці. Сышліся на тым, што талерантнасць ад тэорыі павінна пераходзіць да практыкі, аднак не прыводзіць пры гэтым да агрэсіі збоку і негатыўных наступстваў. Непакой прафесара гуманітарных навук з універсітэта Хартфард у ЗША выкліканы і тым, што ўсё больш амерыканскіх студэнтаў аддаюць перавагу прыкладным навукам, а не гуманітарным. Аднак яго калега з Італіі, дарадца Саюза яўрэйскіх супольнасцей гэтай краіны Віктар Маг'яр верыць, што менавіта моладзь, якая з часам стане на чале сваіх краін, будзе выкарыстоўваць гуманізм і талерантнасць на карысць усяго свету.

Не абышлі ўвагай вучоныя і секцыю «Нарматыўна-каштоўнасная структура маральнасці эпохі постмадэрну і агульначалавечыя каштоўнасці», а таксама разгледзелі культурную палітыку Азербайджана. «Змены ў культуры абумоўліваюць змены каштоўнасцей, — даводзяць даследчыкі. — Канфлікт каштоўнасцей прывёў да войнаў XX стагоддзя».

Напрыканцы пасяджэння ўдзельнікі «круглага стала» адзначылі, што форум за гады яго існавання стаўся важным унёскам у развіццё мультыкультуралізму, заснаванага на гуманістычнай практыцы як базавай каштоўнасці эпохі постмадэрну, і, прыняўшы адпаведную Дэкларацыю, заклікалі міжнародныя і нацыянальныя структуры, якія спецыялізуюцца ў галіне гуманітарнага развіцця, да сістэматычнага правядзення форумаў, канферэнцый, «круглых сталоў», накіраваных на фарміраванне атмасферы талерантнасці і адказу на сучасныя глабальныя ды лакальныя выклікі.

Увогуле, прадстаўнікоў сусветнай культурнай думкі хвалявалі самыя розныя праблемы сучаснага жыцця: трансфармацыя медыя, існаванне экалагічнай цывілізацыі, індэкс чалавечага развіцця, біятэхналогіі ды глабалізацыя. Відавочна, што часу, каб грунтоўна абмеркаваць усё, было не так багата, але галоўнае, што Міжнародны гуманітарны форум у Баку засведчыў: гуманітарныя праблемы не менш важныя за эканамічныя і іх вырашэнне магчымае толькі супольнымі намаганнямі.

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

# У новую кнігарню



Фота Наталлі Асмола

Адрас гандлёвай кропкі — вуліца Сурганава, паблізу ад цэнтральнага «офіса» Беларускага саюза журналістаў. А побач — дом № 42, дзе жывуць многія мастакі, дзе размешчаны мастацкія майстэрні. Месца знакавае.

Можа быць, гэта ў значнай ступені вызначыць будучы асартымент новай крамы. Была ж некалі ў Мінску такая кніжная скарбніца, як «Мастацтва»... А пакуль у прасторным памяшканні ААТ «Белкніга» правялі сучасны рамонт, стварыўшы ўсе ўмовы для наведвання багатай на асартымент кніжнай кропкі. Адкрываючы кнігарню, міністр інфармацыі краіны Лілія Ананіч адзначыла, што падобнага кшталту гандлёвыя аб'екты варта мець кожнаму райцэнтру Беларусі. Акрамя таго, усе крамы «Белкнігі» ў самы бліжэйшы час павінны быць забяспечаны сучаснай даведачнай электроннай сістэмай. Кожны, хто завітае ў пошуках патрэбнай кнігі, павінен знайсці адказ на любыя пытанні.

— Цяпер у кнігарні прадстаўлена каля 6 тысяч найменняў кніг, — распавёў падчас адкрыцця дырэктар ААТ «Белкніга» Аляксандр Вашкевіч. — Усе яны навідавоку. Інакш сёння гандляваць нельга.

— Мы спадзяёмся на самую шырокую ўвагу да кнігарні з боку гараджан і гасцей сталіцы, — зазначыла дырэктар кнігарні Ганна Сціпакова. — У нас надзвычай прасторная зала. Гэта, несумненна, дазволіць праводзіць прэзентацыі, а таксама мастацкія вернісажы, выстаўкі, аўтограф-сесіі. Чакаем і мастакоў, кніжных графікаў са сваімі ініцыятывамі. Я перакanана, што цяпер важна цікава расказаць пра кнігу, давесці пакупніку, да чаго павінен быць скіраваны яго выбар. Хацелася б часцей тут бачыць пісьменнікаў. Сёння без арганізацыйнай работы ніяк не абысціся. Прыйдуць да нас аўтары кніг — адпаведна, завітаюць і чытачы. Мы будзем уважлівыя да продажу дзіцячай кнігі. Пастараемся, каб усе навінкі прысутнічалі ў нас як мага хутчэй пасля іх выхаду ў свет. Будзем рады і супрацоўніцтву з Саюзам пісьменнікаў Беларусі.

**Павел АЛЬСОВЫ**

*За падзеяй*

# Адзнака ўзроўню

**Літаратурны музей Петруся Броўкі запрашае наведаць фотавыстаўку «Адзнака ўзроўню вады», якая з'яўляецца «мастацкім сінтэзам» на падставе літаратурных уражанняў фотамастачкі Марыі Якімовіч.**

Насамрэч пад таямнічым «мастацкім сінтэзам» маецца на ўвазе наступнае: фотаработы спадарыні Марыі каменціруюцца не ёю самой, але... Іосіфам Бродскім. Так, кожны здымак замест назвы ці апісання мае ў якасці тлумачэння ўрывак з эсэ надзвычай папулярнага сёння паэта: «Узбярэжная неацэльных», «Даведнік па перайменаваным горадзе», тэксты са зборніка «Менш за адзінку». У той жа час фота Марыі Якімовіч могуць выступаць ілюстрацыямі да названых эсэ Бродскага.

Вы ўбачыце два гарады, якія выраслі на вадзе і з вады і якія без гэтай стыхіі папросту не ўяўляюцца, — Венецыю і Санкт-Пецярбург. У фотаработах Марыі Якімовіч яны паўстаюць не столькі гарадамі, колькі адасобленымі сусветамі, самотнымі, але цэльнымі, прыцхілымі, але цікавымі. Што адметна, Венецыя, якую мы прызвычаіліся бачыць яскравай і поўнай фарбаў і гукаў, можа быць чорна-белай, маўклівай і застылай у часе — гэта цудоўна дэманструюць здымкі спадарыні Марыі. Гэтаксама і Санкт-Пецярбург, горад велічны, закаваны ў граніт і суровую стрыманасць, паўстае каляровым, нечаканым, імгненным. Зрэшты, убачыце вы і работы, на якіх абедзве Венецыі — паўночная і паўднёвая — маюць звыклыя аблічча.

Чаму фотамастачка абрала ў якасці суаўтара Іосіфа Бродскага? Тлумачыцца гэта любоўю апошняга да вандровак, прычым вандровак адмысловых: прагнучы ўбачыць сапраўднае аблічча краін і гарадоў у прыватнасці, ён вандраваў узімку, «таму што зімой жыццё больш рэальнае, больш дыктуецца неабходнасцю». Сюды ж далучаецца любоў паэта да вады, гарадоў, якія «вырастаюць з мора». Па меркаванні арганізатараў выстаўкі, «менавіта вада ў Бродскага паўстае метафарай свабоды ад прасторы і часу». Да таго ж, менавіта эсэ «Узбярэжная неацэльных» Бродскага натхніла Марыю Якімовіч на «падарожжы ў несезон» і ў тыя ж гарады, якія наведваў паэт. Асаблівую падзяку фотамастачка выказала Лізавеце Вішэўскай — супрацоўніцы музея П. Броўкі і «рухавіку выстаўкі».

Падчас адкрыцця мела месца яшчэ адно творчае супрацоўніцтва — выява спалучалася з гукам. Спачатку патрэбны настрой стваралі музыкі Раман Мяжоў і Віктар Хрушчоў; затым актрыса Ганна Бабіч прачытала некалькі твораў Бродскага — вершы і ўрыўкі з эсэ.

Мэта фотавыстаўкі — не толькі прынесці эстэтычнае задавальненне, але і пашырыць межы разумення прасторы і часу. Час на такі эксперымент яшчэ ёсць: выстаўка будзе працаваць да 7 лістапада.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Далеч стагадовая

**Выстаўка «І бачу пройдзеныя далі...», прымеркаваная да 100-годдзя з дня нараджэння Данілы Міцкевіча (1914 — 1996) — старэйшага сына Якуба Коласа, арганізатара і першага дырэктара (1957 — 1980) Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, адкрылася ў гэтай установе.**



Фота Кастуся Дробава

*Прамаўляе Міхась Міцкевіч.*

Упершыню ў экспазіцыі прадстаўлены асобныя дакументы, фотаздымкі з сямейнага архіва Міцкевічаў, а таксама лісты Песняра і яго жонкі Марыі Дзмітрыеўны да сына. Ёсць тут кнігі «І бачу пройдзеныя далі…» (выдадзеная да 100-годдзя Д. К. Міцкевіча; укладальнік Вера Міцкевіч; Мінск, «Кнігазбор», 2014), «Любіць і помніць. Успамінае сын Якуба Коласа» (Мінск, «Полымя», 2000) з рукапіснымі старонкамі артыкула да яе Данілы Канстанцінавіча і нават… фотаздымак торта, падараванага ім бацьку да дня нараджэння 3 лістапада 1949 года.

Пра жыццё і творчасць Д. Міцкевіча падчас адкрыцця выстаўкі распавёў яго малодшы брат Міхась Міцкевіч. Равеснік Першай сусветнай вайны, Даніла Канстанцінавіч нарадзіўся 30 верасня 1914 г. у Пінску. Пасля сямігодкі скончыў хімпрафшколу, затым — хімічны факультэт БДУ (1936), на якім прайшоў шлях ад асістэнта да старшага выкладчыка. Пазней працаваў у Сярэднеазіяцкім універсітэце, у хімічнай групе АН БССР. Цягам некалькіх месяцаў 1943 года быў дэканам хімфака аднаўленага БДУ на падмаскоўнай станцыі Сходня. У наступныя гады — навуковы супрацоўнік, вучоны сакратар, загадчык лабараторыі інстытута хіміі АН БССР. У 1980-м выйшаў на пенсію з пасады дырэктара музея, але да канца жыцця заставаўся яго старшым навуковым супрацоўнікам. У 1995 г. узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Падчас імпрэзы таксама бралі слова сын Данілы Канстанцінавіча Андрэй і дачка Вера, акадэмік НАН Беларусі Радзім Гарэцкі (пляменнік класіка айчыннай літаратуры Максіма Гарэцкага), пісьменнік і грамадскі дзеяч Анатоль Бутэвіч, паэт Анатоль Вярцінскі, былы супрацоўнік музея Мікола Жыгоцкі, былы дырэктар музея Георгій Ткацэвіч, старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп. Песні на вершы Якуба Коласа і Янкі Купалы ў музычным афармленні кіраўніка ансамбля «Мінскі гармонік», паэта і кампазітара Івана Раманчука выканала артыстка гэтага калектыву Галіна Пархімчык.

**Арына КРАЙКО**

*Паралелі*

# Слова за маладымі

**З-пад пяра расійскага празаіка Юрыя Казлова выйшла больш як 20 кніг. Творца — член Саюза пісьменнікаў Расіі, лаўрэат прэстыжных расійскіх і міжнародных прэмій. А яшчэ — галоўны рэдактар такога шаноўнага выдання, як часопіс «Раман-газета». Наша гутарка — пра сучаснае прыгожае слова і літаратуру маладых.**



Фота Кастуся Дробава

**— Юрый Вільямавіч, з чаго пачынаўся ваш пісьменніцкі шлях?**

— Калі выйшла першая кніга — раман «Вынаходніцтва веласіпеда», — мне споўнілася 25 гадоў. У кантэксце часу, а гэта быў 1979 год, твор прагучаў даволі актуальна.

**— Ці прадстаўлена сённяшняя моладзь на старонках часопіса?**

— Так. Напрыклад, «Раман-газета» першай надрукавала раман празаіка Захара Прылепіна «Паталогія». Актыўна працуе ў гэтым рэчышчы і Сяргей Шаргуноў, зусім хутка плануем апублікаваць яго раман «1993 год». Увогуле, прадстаўнікам маладога пакалення, якія прапануюць нам свае творы, заўжды аддаём перавагу, прадастаўляючы ім слова на старонках выдання.

**— Які літаратурны твор лічыце добрым?**

— Той, што напісаны сапраўднай мастацкай мовай, бярэ за душу, прымушае думаць, разважаць, суперажываць.

**— Якія патрабаванні прад'яўляеце да твораў, што паступаюць у рэдакцыю?**

— Галоўнае — якасць. Паколькі «Раман-газета» — часопіс спецыфічны, дзе творы, як правіла, друкуюцца цалкам, гэта павінна быць фарматная проза (аповесць, раман або добра прадуманая падборка апавяданняў). Штогод стараемся выдаваць зборнікі «Сучасная расійская аповесць» і «Сучаснае расійскае апавяданне». Увогуле, для твораў таленавітага чалавека ў нашым выданні месца знойдзецца заўсёды.

**— Якія, на ваш погляд, перспектывы ў беларуска-расійскіх літаратурных стасункаў?**

— Наша творчае супрацоўніцтва мяркуем наладзіць так, каб праз «Раман-газету» беларускія аўтары былі прадстаўлены ў Расіі. Плануем выпусціць і спецыяльны нумар часопіса, дзе будзе апублікавана толькі сучасная беларуская проза. «Раман-газета» распаўсюджваецца па ўсіх расійскіх бібліятэках, і пажадана, каб чытачы даведаліся пра сучасных беларускіх пісьменнікаў, зацікавіліся іх творчасцю, а яшчэ — каб ваша сучасная літаратура трапляла на кніжны рынак Расіі ды карысталася ў нас попытам. Праўда, тут ёсць шэраг тэхнічных цяжкасцей, выкліканых найперш перакладам і сённяшнім станам кніжнага рынку ва ўмовах эры інтэрнэту. Аднак спадзяюся, нашы сумесныя праекты будуць паспяховымі.

**Яна ЯВІЧ**

*Між іншым*

# Смех — справа сур'ёзная

Там, дзе «Вожык», заўжды ўсмешка і добры настрой. Нядаўна жыхары Дзяржынска сустрэліся ў чытальнай зале Цэнтральнай раённай бібліятэкі з галоўным рэдактарам часопіса Юліяй Зарэцкай.

І невыпадкова: у жнівеньскім нумары «Вожыка» байкі паэтаў Дзяржынскага літаратурна-паэтычнага клуба «Выток» занялі дзве старонкі. Сяброўства пачалося год таму, калі рэдакцыя брала ўдзел у Другіх каганецкіх чытаннях, прысвечаных 145-годдзю з дня нараджэння Каруся Каганца. Там і пазнаёміліся.

Кіраўнік выдання распавяла пра творчы шлях «Вожыка», у якім у свой час друкаваліся Янка Купала, Якуб Колас, Іван Шамякін, Васіль Быкаў. Дарэчы, у рэдакцыі захоўваюцца ўсе часопісы пачынаючы з 1941 года. Затым слова было прадстаўлена сябрам клуба «Выток». Новыя байкі прачыталі Рэгіна Рэўтовіч, Людміла Круглік, Ядвіга Доўнар, «свежыя» гумарэскі і байку — Васіль Семянюк, малдаванін, які выдатна ведае беларускую мову. Поўныя гумару афарызмы «Антосікі» прапанаваў паэт Антон Анісовіч, асобныя з іх, дарэчы, будуць надрукаваныя ў «Вожыку».

Напрыканцы сустрэчы вядучая, кіраўнік клуба «Выток» Наталля Лебядзеўская падарыла Ю. Зарэцкай зборнік гумарыстычных твораў членаў суполкі «Усміхнёмся разам». Кожны з прысутных атрымаў кнігу з бібліятэкі часопіса «Тарас на Парнасе». Як прагучала падчас імпрэзы, сяброўства «вытокаўцаў» з «Вожыкам» працягнецца. Бо, як кажуць у народзе, смех — справа сур'ёзная.

**Лявон ЦЕЛЕШ**

# Прастора для верша

Юбілейная вечарына паэтэсы і перакладчыцы, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Таццяны Лейка «Стихи зарождаются в чистом пространстве…» прайшла ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 5.

Таццяна Лейка нарадзілася ў Свярдлоўску (цяпер Екацярынбург). Скончыла рускае аддзяленне філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Першая публікацыя пабачыла свет у часопісе «Нёман» (1979). Аўтар двух паэтычных зборнікаў, актыўна выступае ў перыядычным друку. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі і Санкт-Пецярбургскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі.

Падчас імпрэзы Таццяну Аляксандраўну віншавалі калегі-творцы: старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, галоўны спецыяліст МГА СПБ паэтэса Іна Фралова, паэты Міхась Башлакоў, Дзмітрый Пятровіч, Георгій Кісялёў, празаік Сяргей Трахімёнак, які выканаў песні на вершы Мікалая Шыпілава і Віктара Верстакова, літаратурны крытык Таццяна Андрэйчанка.

З рук паэта Анатоля Аўруціна юбілярка атрымала дыплом Санкт-Пецярбургскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі. У выкананні студэнткі факультэта беларускай і рускай філалогіі БДПУ імя Максіма Танка Аліны Рамановіч гучалі вершы Таццяны Лейка ды іх пераклады на беларускую мову паэта Міколы Шабовіча.

**Яна ЯВІЧ**

*Імпрэзы*

# Па-святочнаму

Вечарына «Галоўнай бібліятэкі бенефіс», што адбылася ў 1-й публічнай бібліятэцы Бярэзіншчыны, была прымеркавана да 110-гадовага юбілею гэтай старэйшай у вобласці кніжніцы.

Падчас віртуальнага экскурсу ў мінулае ажылі старонкі летапісу, былі ўзгаданы імёны тых, хто стаяў ля вытокаў бібліятэчнай справы, ушанаваны ветэраны. На цырымоніі ўручэння прэміі «Бібліявацыя» па выніках папярэдне праведзенага апытання работнікаў райвыканкама, мясцовай інтэлігенцыі і наведвальнікаў бібліятэкі шэраг яе супрацоўнікаў быў адзначаны дыпломамі і сімвалічнымі статуэткамі, а лепшыя атрымалі ганаровыя граматы.

Цікавымі атрымаліся акцыі «Сумка дружбы» і «Кніга пажаданняў», фотавыстаўка і рэтраэкспазіцыя. Былі падведзены вынікі конкурсу школьных сачыненняў «Мой горад — мая бібліятэка».

Святу папярэднічаў велапрабег навучэнцаў турыстычнага цэнтра «Юнацтва» пад дэвізам «Бярэзінская моладзь выбірае кнігу!».

**Тамара КРУТАЛЕВІЧ,**
**загадчык аддзела маркетынгу**
**Бярэзінскай ЦБ**

**Мінскае гарадское аддзяленне**
**Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**12 кастрычніка** — *на свята духоўнай паэзіі і музыкі, якое адбудзецца ў межах Дзён праваслаўнай культуры ў Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага (пл. Свабоды, 15). Пачатак у 15:30.*

**15 кастрычніка** — *у літаратурную гасцёўню «Сябрына» пры гімназіі № 20 (вул. Адзінцова, 80) на творчую сустрэчу з паэтам, галоўным рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктарам Шніпам. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**16 кастрычніка** — *на літаратурна-музычнае свята «Мама… Маці… Матуля…», якое адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 7 (вул. Пляханава, д. 97/4). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**16 кастрычніка** — *на літаратурны вечар, прысвечаны 200-годдзю з дня нараджэння Міхаіла Лермантава. Імпрэза пройдзе ў Доме Масквы (вул. Камуністычная, 86). Пачатак а 17-й гадзіне.*

# Таленты адной сям'і

**У Светлагорску ўжо дзясяткі гадоў у добрай згодзе і шчырасці жыве сям'я вядомых паэтаў — Ізяслаў Катляроў і Соф'я Шах. Нядзіўна, што яны бездакорна перакладаюць адно аднаго, паколькі Соф'я Шах піша вершы на беларускай мове, а муж, наадварот, — на рускай. Вось і гэтыя падборкі, што сёння друкуюцца ў «ЛіМе», створаны аўтарамі па такім прынцыпе і ўзаемным разуменні. Да сказанага трэба дадаць: светлагорскія паэты напісалі шмат кніг, маюць асабістыя ўзнагароды і, галоўнае, выключную павагу чытачоў. Два адметныя паэтычныя таленты шчасліва прыжыліся ў працавітай сям'і. І няхай творцаў, як яны ж самі і напісалі, ніколі не пакідаюць поспех і спадзяванне.**

## Ізяслаў КАТЛЯРОЎ



***

*Дзе нібы нічога не было,*
*дзе само паветра знікла ў высях,*
*бы дыханне, бачу я святло,*
*і прамень як быццам аддзяліўся.*
*Ён — не ён, а свеціць мне ў дакор,*
*сам сябе пад небам прасцірае…*
*Вось мігціць на ўвесь зямны прастор,*
*вось бы гасне,*
*быццам бы згарае.*
*Звузілася гнётка вышыня, —*
*так, што сцяўся*
*шолах над бярозай.*
*Вогненных успышак вастрыня*
*жаласцю пужае і пагрозай.*
*Ці святло,*
*ці водбліск*
*на шляху?*
*Што мне ў ім — то мяккім,*
*то суровым,*
*я сказаць ніколі не змагу*
*ні дыханнем, ні душой, ні словам.*

***

*Можа, ёсць і прывабнейшы рай, —*
*праглядзела душа, як на тое...*
*Мілы Госпадзі, ўсё-такі дай*
*мне дажыць да мяжы прасвятое.*
*Не, не кожнаму гэта дано*
*нават на векавечным спакоі,*
*бо мяжа — дзе канчаеш адно*
*і пасля пачынаеш другое.*
*Ну а раптам —*
*мяжа без мяжы?*
*Ці такая — што*
*з вечным*
*адхонам?..*
*Так баюся я не завяршыць*
*спраў, якімі заняты штодзённа.*
*Перад імі — у звычным даўгу,*
*не зрабіў яшчэ й палавіны...*
*Дай, каб змог тое ўсё,*
*што магу, —*
*нават больш,*
*чым магу і павінен.*

***

*Паспеў зміpыцца з доляю сваёю,*
*нічым ужо не смею даражыць...*
*Як жыць, калі не ведаю, як жыць?*
*Кім быць, калі бяссільны быць сабою?*
*Не ў даль гляджу, а далі сінявою.*
*Так вечнасці адной хацеў служыць,*
*ды толькі сам сябе сумеў забыць,*
*як бы не варты сам сябе душою.*
*Калі ж гляджу не ў даль,*
*а сіняй даллю,*
*то векавечным думаю зноў жалем*
*і ў незямных штосьці чую галасах.*
*Вы некалі мо ўцяміце ў спагадзе,*
*што дзесьці там,*
*на дальнім далеглядзе,*
*ёсць і мая ўсяленская сляза.*

***

*«Госпадзі, — скажу, калі сустрэну,*
*каб падвесці вынікі змагчы, —*
*нас жыццём агульным Ты і спеўным*
*пазнавата на зямлі злучыў».*
*Знаю: быць магло зусім інačай, —*
*розныя вялі дарогі нас...*
*Мы за гэта шчэ не раз аддзячым,*
*толькі і далей спрыяй праз час.*
*Нашы душы разлучаць не трэба,*
*памяць нам таксама не гасі.*
*Смерць — мяжа на доле, ну а ў небе?*
*Ну а ў небе, там, на небясі?..*
*…Пазіраю ўвысь,*
*дзе хмар так поўна,*
*я пад імі споведна стаю, —*
*просценькія словы малітоўна*
*ветру на імгненне аддаю.*

***

*Слухаю зрокам слепа.*
*Высь а ці даль святла?*
*Птушка ў вялізным небе —*
*дробненькая — адна.*
*Рухаецца? Знікае?*
*Слёзна ажно глядзець...*
*Неба пералятае?*
*Цяжка пераляцець.*
*Ветру крутыя хвалі,*
*хмары ўжо з нейкім злом...*
*Волю? Ну так, спазналі*
*птушкі нябесных стром.*
*Што ж мне за гэтай скрушна,*
*скрушна сачыць між слёз?*
*Холадна ёй ці душна*
*шлях працінаць наскрозь?*
*Вецер ужо — у гневе,*
*высь — без канца і дна...*
*Птушка ў вялізным небе —*
*дробненькая — адна...*

***

*«Кто умеет стрелять в пустоту,*
*поражая незримые цели?»*
**Ю. Кузняцоў**

*Як тут сэнс гэтых слоў не ўзгадаць,*
*азірнуўшы і глыбі, і мелі?!*
*Я ў пустоту умею страляць, —*
*ў ёй хапае прыкметных мне цэляў.*
*Знаю, слова стрэле —*
*не раўня,*
*ды яно раптам робіцца мною,*
*разумее, што і пустата*
*не бывае для нас пустатою.*
*І сумненне, і крыўда — у ёй,*
*у ёй ганьба так глыбіца цямка,*
*і любоў, што не стала сабой,*
*і канец, што няўзнак*
*стаў пачаткам.*
*Тое ўсё, што мяне забярэ,*
*калі слова ад зморы прыстане.*
*У ёй жаба-царэўна жыве,*
*хоць царэўнаю так і не стане.*
*Вось ізноў усвядомлю віну, —*
*навізна не бывае*
*ўсё ж новай, —*
*гарызонт, нібы лук, нацягну*
*і пушчу непахіснае слова*
*ў пустату.*

***

*Ну вось і сам ужо спазнаў*
*адказ, які ў цане:*
*штосьць для жыцця ты напісаў,*
*для пасляcмерця — не.*
*Бо словы й тыя маюць прах*
*і лёгка мруць, на жаль...*
*Няма бязмежнасці ў радках,*
*а думаеш — у даль.*
*Бясконцасць ёсць нат у канца,*
*ды свой адкінь сумнеў:*
*пераживе спеў і творца,*
*калі сапраўдны спеў,*
*журба спрадвечная ў якім*
*для радасці мірской,*
*якім скрозь дыша высі ўздым*
*і ўсё-такі — табой…*
*Каб неба ў ім, ці небясі,*
*сышлося ў паўавал,*
*каб спеў, як «ой ты, гой есі»,*
*спагадліва гучаў.*
*А з тым, што ты сумееш стварыць,*
*час трацячы няўзнак,*
*яшчэ, бадай, магчыма жыць,*
*а паміраць — ніяк.*

**Пераклад з рускай мовы Соф'і Шах**

## Соф'я ШАХ



***

*Багаты дзень*
*паабяцала сонца*
*у ранішняй, таемнай варажбе:*
*блакіт нябёсаў, хмарак*
*шлях бясконцы,*
*і мокры снег, і лужы, і сябе.*
*І подых ветру радасна-паўднёвы,*
*і ўзрушаны птушыны перазоў,*
*і водар лютага —*
*такі вясновы,*
*і зноў — сябе, сябе надоўга зноў.*
*І моцную, галоўную патрэбу*
*не праспяваць, дык споведна сказаць,*
*што скарбу іншага душы не трэба,*
*каб час жыцця так*
*ладна адчуваць.*

***

*Які выдатны дзень ад ранняга*
*сярод сінічнага спявання,*
*сярод гракоўяй мітусні*
*і галубінай вуркатні!..*
*Які праменны дзень з нябёсаў*
*сярод апошніх адгалосаў*
*такое стромістай зімы,*
*ў якой жылі, жылі і мы!..*
*Які высокі дзень ад моцы*
*у лютаўскім, у слепкім сонцы, —*
*у слепкіх сонечных снягах,*
*здаецца, слепне ўвесь абсяг!..*
*Які ён, гэты дзень цудоўны,*
*і красамоўны, і змястоўны!*
*А ўсё тлумачыцца адным:*
*каханы нарадзіўся ў ім.*

***

*Наколькі стала больш гадоў —*
*настолькі больш іспытаў,*
*і кожны з іх штодня гатоў*
*сваім выпытваць спрытам.*
*А мы і тыя, што былі,*
*дарэштачкі спазналі,*
*а мы і тыя, што сышлі,*
*усё ж перамагалі.*
*А гэтых, новых, хто чакаў?!*
*Ні я, ні Вы, каханы.*
*А гэтых, стромых, хто іх знаў*
*у спеву днях адданых?!*
*І вось прастору занялі,*
*шчэ светлую нядаўна,*
*і ценем зыбкім наплылі*
*на далячыні спраўна.*
*Забраць імкнуцца спеўны час,*
*святлу ўсё пагражаюць,*
*але прад лучнасцю штораз*
*прад нашай адступаюць.*

***

*Кожны дзень цяпер —*
*іспыт на моцу,*
*дзякуючы ў рэшце рэшт якой*
*я штодня і радуюся сонцу*
*ды нябёсам родным над сабой.*
*Кожны дзень цяпер —*
*праверка духу,*
*здольнага далей супрацьстаяць*
*думкам тым, што выклікаюць скруху*
*і якой ніяк не мінаваць.*
*Кожны дзень цяпер — нібы экзамен,*
*годна-ладна вытрымаць які*
*дапаможа толькі вобраз мамін,*
*спеў каханага, спакой дачкі.*

***

*Зірну на Вас — і словы ўсе адступяць,*
*не перадасць ужо з іх ні адно,*
*якія сэрца мне пачуцці чуляць,*
*як зноўку адгукаецца яно.*
*Зірну на Вас — і слёзы не, не скажуць,*
*якой спагады споўнена душа*
*і як не томіцца здароўя прагнуць,*
*здароўя і здароўя Вам спяшча.*
*Зірну на Вас — і зразумее Божа,*
*што трэба для наступнага мне дня,*
*каб белы свет дзівіў далей раскошай,*
*каб дух мой захапляла вышыня.*

***

*Ёсць Вы — і значыць, дзень харошы ёсць,*
*і значыць, зноў і зноў шырока можна*
*паветрам дыхаць, разумець мілосць*
*вясны ці восені раскошнай.*
*І можна зачаравана маўчаць*
*ці гэтак жа спяваць на поўны голас,*
*любую далеч зрокам даставаць,*
*любыя высі чуць раз-пораз.*
*І можна ўсе навалы працярпець,*
*і розныя трывогі, жахі-страхі,*
*ну а на злыя дробязі сумець*
*наогул не звяртаць увагі.*
*І можна моцна-моцненька ў душы*
*лучыць усход і захад, поўдзень, поўнач.*
*І можна ўжо не адчуваць мяжы*
*і вечна жыць, калі Вы побач.*

***

*Трымайцеся, мілы,*
*трымайцеся, родны, —*
*такі ўжо нам выпаў наструнены час —*
*ад боляў не вольны, ад бед не свабодны,*
*і клопатаў штосьці ўсё той жа запас.*
*Трымайцеся, светлы,*
*трымайцеся, існы, —*
*хай будзе і гэтых іспытаў сіло*
*для спеўнай душы ўсё-ткі*
*чымсьці карысным,*
*калі ўжо мінуць нас ніяк не магло.*
*Трымайцеся, ясны, трымайцеся, слаўны,*
*заўсёды, усюды ў жыцці гэтым Вы,*
*а я памагу і ў час нават каляны,*
*ды ўсё-ткі далёка яшчэ не сівы.*
*Трымайцеся, шчыры,*
*трымайцеся, шчодры, —*
*ого колькі трэба яшчэ нам гадоў,*
*каб тое спазнаць, што не ведае зморы*
*паміж невымоўнасцю лучаных слоў!*

***

*Якія маленькія дні…*
*Якія шматлікія справы…*
*А колькі пустой мітусні…*
*А колькі нядобрай праявы…*
*І зноўку сябе не ўмясціць*
*між раніцай і надвячоркам, —*
*так час дабавочна бяжыць,*
*што змрок бы мяжуе са змрокам.*
*Сутонне світальнай пары*
*як бы — ля сутоння начнога,*
*і зоркі то мруць угары,*
*то зноў нараджаюцца строга,*
*нібыта сігналы-агні*
*між берагам левым і правым,*
*дзе трэба ў маленькія дні*
*уціснуць вялікія справы.*

***

*Ў гэтай жыццёвай гонцы,*
*ў спешцы імклівых дзён,*
*Госпадзі, дай мне моцы, —*
*той, ад якое — плён.*

*Рана слабець мне сілай,*
*рана — маўчком, ціхком, —*
*трэба мне, Божа мілы,*
*ўсюды і ўсё — бягом.*

*Я так прашу няўцерпна*
*не для сябе самой, —*
*сіла мая патрэбна*
*дочачцы, Божа мой.*

*Моц мая неабходна*
*мужу, Гасподзь святы.*
*Што мне рабіць, бядотнай,*
*як не пачуеш Ты?!*

Таццяна ПЯШКО

# Пра Антошу, інтэграваны клас і абабкі

*Апавяданне*



Вось ён, доўгачаканы, такі жаданы званок! Рукі міжволі пацягнуліся да рукзака, ад рэзкага, занадта паспешлівага руху сапсаваўся замок-маланка. Што ж, гэта не бяда, замок ён паправіць потым, будзе для гэтага час, а зараз ягоныя думкі скіраваны на іншае. Антон кінуў у рукзак падручнік і сшытак, цяпер уся ўвага на дзверы: трэба злавіць момант, калі можна пакінуць клас. Кажуць, званок не для вучняў — для настаўнікаў. З гэтым ён ніколі не пагодзіцца: званок як для настаўнікаў, так і для вучняў — для ўсіх. Краем вока ён сачыў за настаўніцай, заўвагі яму гэтым разам яна не зрабіла.

Увогуле, Антон хацеў быць добрым вучнем, без аніякіх заган, але гэта ў яго не атрымлівалася, хоць і вельмі стараўся. Асабліва складана было з матэматыкай. Ужо які ўрок, пакуль увесь клас паўтараў правілы, рашаў задачы і прыклады, Тамара Віктараўна тлумачыла яму і Андрэю, як адымаць лікі ў слупок, хаця сёння, як і ўчора, і пазаўчора, і шмат дзён таму, гэтае адыманне заставалася для яго непрыступнай сцяной. Куды лягчэй далося складанне ў слупок.

Пяты «Г» адрозніваўся ад іншых класаў. Пасля таго як дзяцей, што не маглі засвоіць школьную праграму, перавялі ў звычайную школу, толькі са сваім, аблегчаным курсам, класы для цяжкіх вучняў пачалі называць інтэграванымі. У настаўніцы такіх інтэграваных падлеткаў было два — Антон і Андрэй. Клас ва ўсю практыкаваўся ў множанні і дзяленні лікаў, рашаў складаныя задачы, а хлопцы толькі падступаліся да табліцы множання. Некаторыя аднакласнікі пасмейваліся з іх, абражалі кепскімі словамі, аднак тыя прывыклі да гэтых насмешак, не звярталі на іх увагі. Зрэшты, а што ім заставалася? Як часта паўтарала новая маці Антона: «Жыць-та трэба». Мабыць, у якасці кампенсацыі хлопцы атрымалі ад прыроды шмат іншага: наіўнасць, адкрытасць, шчырасць, жыццярадаснасць, дабрыню і спагаду.

У сталоўку Антону хацелася трапіць ў ліку першых. Ён жыў у прыёмнай сям'і. Такіх дзяцей, што адабралі ў нядбайных бацькоў, у цяперашняй яго прыёмнай маці было сямёра. Яму падабаўся іх вялікі двухпавярховы дом, хлопчык заўсёды з апетытам уплятаў боршч, які часта гатавала новая мама. Зрэдку траплялася ў талерцы нават курыная шыйка. Смачным атрымлівалася і пюрэ. Ён памагаў абіраць бульбу, стараўся, каб лупіны былі як мага танчэйшыя. Падабаліся і катлеты, якія смажылі звычайна ў нядзельку. Купляла маці пячэнне, цукеркі, але ж у сям'і не адзін, не два, а сямёра дзяцей! А буханка хлеба каштуе вунь колькі.

У сталоўцы дзяжурная настаўніца ўжо распараджалася, рабіла заўвагі, і гэта яго парадавала. Праўда, ля настаўніцы выстройвалася, увачавідкі расла ладная чарга. Дзеці, што стваралі гэты жывы ланцужок, былі льготнікамі, дзяржава іх карміла бясплатна. У гэтую асобную катэгорыю ўваходзілі дзеці з шматдзетных, малазабяспечаных сем'яў, уключылі сюды таксама тых, каго палічылі сацыяльна незабяспечанымі па віне нядбайных бацькоў.

Антон стаў у чаргу за шырокай спінай аднакласніка Казіка. Антон нямала здзівіўся, што Казік яго апярэдзіў. На ўроку фізкультуры суседзі апошні, а тут раптам праявіў зайздросны спрыт. Калі шчыра, то Казіку Антон ніколі не зайздросціў. Да хлопца прыляпілася абразлівая мянушка — Мяснік. Яго бацькі мелі ў горадзе аж два мясныя магазіны, але дзяцей сваіх прапісалі ў вёсцы, у бабулі. Што ж, прадпрымальныя людзі прадпрымальныя ва ўсім, як бачна, нічога яны не ўпускаюць.

Чарга прасоўвалася хутка.

Тоўстая, як калода, паварыха рухалася даволі жвава, разам з памочніцай яны спраўна накідвалі ў металічныя талеркі пюрэ, палівалі порцыі стравы нейкай карычневай вадкасцю, у якой плавалі невялічкія кавалачкі мяса. У кардонный каробцы ляжалі апельсіны. Хлеб, як заўсёды, паставілі на самую верхнюю паліцу. Болей высокі Мяснік дацягнуўся да палічкі, схапіў аж чатыры кавалкі — два чорнага і два белага хлеба. Як ні стараўся тое ж зрабіць Антон, у яго нічога не атрымлівалася. Нават адной скібачкі хлеба не дастаў — ростам не выйшаў.

— Казік, дастань мне хлеба, калі ласка, — папрасіў аднакласніка.

— Яшчэ чаго… Можа, табе даць кашалёк, дзе грошы ляжаць? — хлопец азірнуўся. — Пацягнуў я руку, рука баліць, — Казік скрывіўся, быццам ад болю, спрабаваў у якасці доказу падняць і не падняў рукі.

Нарэшце наступіла чарга Антона. Не пашанцавала хлопцу і тут. У яго талерку трапіла зусім мала мяса. Зрэшты, якое мяса? Смех адзін. Нейкая свіная шкурка ці сухажылле. Аднак апельсін дастаўся вялікі. За сталом, перш чым узяцца за лыжку, вырашыў разабрацца з апельсінам — схаваць яго ў кішэню. Але як ні стараўся, ні ў адну з кішэняў аранжавы фрукт не хацеў улазіць. Антон так і не рашыў, як быць з жаданым наедкам, калі ўбачыў над сабой азызлы гарбаносы твар хуліганістага старшакласніка Кіслага, якога добра ведаў кожны вучань — ад першакласніка да выпускніка.

Антон азірнуўся. Дзяжурны настаўнік адзначаў у журнале льготнікаў. Адсюль чакаць дапамогі не варта. За парадкам апроч дзяжурнага сачылі адміністратары. Антон з надзеяй абвёў позіркам залу. Два завучы сядзелі ў самым далёкім куточку, ласаваліся манкай, што засталася пасля снедання першакласнікаў.

— На дыеце сёння пасядзіш, — Кіслы пацягнуў да сябе талерку з пюрэ. — Ды і наконт цытрусавых, каб ты ведаў, — яны малечы супрацьпаказаны. Апельсін, запомні, самы моцны алерген. — Вялікі апельсін, што не паспеў схаваць Антон, Кіслы аддаў дзяўчыне, з якой, мусіць, старшакласнік зайшоў у сталоўку. На апранутай у модны сарафан дзяўчыне Антон затрымаў позірк, спадзеючыся: мо тая верне яго апельсін? Але яна нават не паглядзела на бедака, нешта шапнула на вуха Кісламу і лёгкімі бесклапотнымі крокамі пайшла са сталовай.

Усё, што засталося Антону ад абеду, — шклянка кампоту.

Спачатку ён невялікімі глыткамі выпіў вадкасць. Відэльца, каб дастаць са дна долькі яблыкаў, на стале не было. Крыху нахіліўшы і страсянуўшы шклянку, пальцамі злавіў тры долькі, адправіў у рот.

«Вось і паабедаў», — падумалася хлапчуку. Настрой пасля такога абеду стаў зусім неважнецкі, нават не хацелася ісці на ўрок. Наступнай па раскладзе была праца. Вёў занятк Міхаіл Феафілавіч.

Праграма прадугледжвала некалькі гадзін для самых складаных прадметаў. Асобна ад класа, у якім дваццаць пяць чалавек, толькі з двума вучнямі — Антонам і Андрэем — займалася завуч. Урокі працы, як ветэран школы, узяў Міхаіл Феафілавіч.

Летась занятк вяла Нэлі Паўлаўна. З ёй было цікава. У верасні дзеці збіралі ўраджай з школьнага агарода, налушчылі шмат насення кветак, зімой пяклі пячэнне, гатавалі суп. А Міхаіл Феафілавіч на кожным уроку чытаў тэкст з кнігі, яны запісвалі, каб на наступным уроку прачытаць яму той тэкст па памяці. Занятк праводзілі ў інтэрнаце пры школе — у асноўным корпусе не хапала памяшканняў.

Ідучы са сталовай у інтэрнат, Антон спадзяваўся, што і сёння Міхаіл Феафілавіч адпусціць яго, каб хлопчык пахадзіў ля бярозак вакол школьнага стадыёна. На мінулым уроку Антон прынёс настаўніку з бярозавай алейкі дваццаць маладзенькіх абабкаў, здаровых, на тоўстых ножках.

У калідоры інтэрната настаўнік размаўляў з выхавацелькай, мабыць, пра нешта вясёлае — абодва задаволена пасміхваліся.

— Добры дзень, — павітаўся Антон.

— Добры, добры… А дзе Шагун? — пацікавіўся настаўнік.

— Ну дзе ж ён можа быць? Як заўсёды, недзе ў куточку за агароджай, смаліць самасад. А мне з ім сядзець столькі часу, нюхаць пах тытуню… А можна, я і сёння пагляджу каля бярозак абабкаў? Два дні прайшло. Няйнакш выраслі новыя?..

— Ладна, давай, — ці то гутарка з маладой вабнай жанчынай так зацікавіла настаўніка, што ён не мог адарвацца, ці, можа, і сёння захацелася паспытаць смажаных грыбочкаў, а магчыма, прычына была зусім іншай — настаўніку надакучыла чытаць тэкст з падручніка.

— Дзякуй, тады я схаджу па рукзак.

Антон хутка вярнуўся. На тым жа месцы застаў настаўніка, які слухаў выхавацельку.

— Толькі вось…— спыніўся ля Міхаіла Феафілавіча. — Няма ў што збіраць грыбы…

— Не праблема, — настаўнік хуценька, быццам чакаў такога пытання, дастаў з кішэні акуратна складзены пакет, падаў вучню.

Грыбоў сапраўды вырасла шмат, ва ўсякім разе, не меней, чым два дні таму. Адно кепска: трапляліся і старыя, не вельмі вабныя. Але Антон браў усе — каб было болей. Ён пільна прыглядаўся да кожнага бугарка — а раптам пад лістотай маленькі абабак? Маленькія — самыя каштоўныя грыбы.

Нечакана пачаў накрапваць дождж, спачатку асцярожна, нейкі скупы, але паступова набіраў сілу, станавіўся густым, спорным; неба пацямнела, аднекуль падзьмуў халодны вецер.

— Антоша, а што ты тут робіш?

Так называла яго толькі настаўніца геаграфіі. Антону яна падабалася, таму, мусіць, і геаграфія стала любімым прадметам. Цікава было слухаць пра самыя розныя краіны, даведвацца пра дзівосныя адкрыцці, чуць пра вялікія і малыя рэкі, акіяны, вабіла вучня мілагучная чыстая мова настаўніцы, усё так было прыгожа на ўроку, што хацелася апынуцца і заставацца ў тым нерэальным дзівосным свеце надалей.

Антон падышоў да настаўніцы.

— Я тут грыбы збіраю, — чыстыя, ясныя вочы хлапчука глядзелі даверліва.

— А як жа ўрокі? — не зразумела настаўніца.

— Мяне Міхаіл Феафілавіч адпусціў.

— Ну і каму ты іх збіраеш?

— Міхаілу Феафілавічу. Я ўжо раз збіраў яму. Пазаўчора. Глядзіце, якія прыгожанькія, крэпенькія…

Міхаіл Феафілавіч у школу прыйшоў не так даўно. Аксана Уладзіміраўна ведала, што ён па прафесіі заатэхнік, пасля акадэміі працаваў на доследнай сельскагаспадарчай станцыі, у аддзеле жывёлагадоўлі, потым у вучэбна-вытворчым камбінаце, дзе павышалі кваліфікацыю спецыялістаў сярэдняга звяна — трактарыстаў, механікаў, брыгадзіраў, звеннявых. Але і аддзел жывёлагадоўлі, і камбінат закрылі. Міхаіл Феафілавіч за гэты час завочна закончыў педагагічную навучальную ўстанову. Раней Аксана Уладзіміраўна часта бачыла настаўніка на рынку: той гандляваў насеннем, клубніцамі. Каб прыцягнуць пакупнікоў, зрэдку гучна аб'яўляў: «Элітнае насенне! Выдатная якасць!» Неяк дайшлі да настаўніцы чуткі, што аднойчы ў агарод Міхаіла Феафілавіча залезлі падлеткі, настаўнік выбег з засады, аднаго дагнаў, накруціў добра вушы.

— Ты ж, Антоша, увесь мокры. Прастынеш…

— Не, я ніколі не хварэю. З мяне як з гусака вада…

— Прабач, але калі шчыра, то ты цяпер падобны да мокрай курыцы, і настрой у цябе адпаведны, неважнецкі, выгляд зусім не радасны.

— Праўда ваша, настрой не самы лепшы.

— А што здарылася? Слабы абед у сталовай?

— Ад аднаго кампоту для добрага настрою, каб і хацеў, не атрымаецца.

— А іншыя стравы?

У адказ падлетак безнадзейна махнуў рукой, адвярнуўся, яўна не жадаючы расказваць пра парадкі ў сталовай.

Настаўніцы стала шкада падлетка. Выгляд ён меў нейкі закінуты. Вялікая, з чужых плячэй куртка, разношаныя, не па назе, мокрыя туфлі з белымі насамі, якіх даўно не краналіся шчотка з ваксай. Ды і ў школе, відаць, прывыклі да яго памятага, не зусім ахайнага выгляду. Многія за вочы асуджалі прыёмную маці, але Аксана Уладзіміраўна ведала, як цяжка часам даводзіцца нават з адным жэўжыкам, якому выхаднымі днямі мыла цэлую кучу адзення. Антон, як прыкмеціла настаўніца, увесь час насіў адну і тую ж шэранькую кашульку.

Чамусьці Аксане Уладзіміраўне захацелася хоць што-небудзь добрае зрабіць для хлопчыка.

— Вось што. Пойдзем да мяне ў госці. Урокаў якраз няма, я на абед іду. Складзеш мне кампанію?

— Як скажаце.

Боршч Антон еў з апетытам, пасля ўзяліся за адбіўныя, закончылі абед рэштkамі яблычнага пірага з кавай. Канечне, былі ў настаўніцы і цукеркі, прыхаваныя для сына. Хвілін пятнаццаць Антон яшчэ і на камп'ютары пагуляў.

Перад тым, як пайсці з кватэры, вырашылі разабрацца з грыбамі. Не адчуваючы папрокаў сумлення, Аксана Уладзіміраўна ў пакеце настаўніка працы пакінула старыя абабкі, маладзенькія паклала ў другі пакет, паабяцала прыхаваць грыбы ў шафе свайго кабінета, пры ўмове, каб абавязкова пасля ўрокаў Антон забраў іх, занёс дамоў, а маці ведае, што з імі зрабіць.

Назаўтра перад урокам геаграфіі да Аксаны Уладзіміраўны падышоў Антон. Хлопчык усміхаўся і па-змоўніцку прашаптаў:

— Аксана Уладзіміраўна, каб вы ведалі, які цудоўны грыбны суп атрымаўся… Мне мама аж дзве талеркі наліла. Сказала, што здабытчыка трэба заахвочваць.

— Я вельмі рада. Толькі, Антоша, гэта няхай будзе нашай тайнай.

На твары падлетка настаўніца заўважыла расчараванне.

— А я ўжо маме пра ўсё расказаў.

— Ну, маме можна, — усміхнулася настаўніца.

# Хэпі-энд па-нашаму

**У серыі «Бібліятэка дзіцячай літаратуры» Саюза пісьменнікаў Беларусі выйшла кніга Кацярыны Хадасевіч-Лісавой «Код геніяльнасці». Укладанне кнігі нельга назваць цэласным, бо розныя творы ў ёй маюць розную чытацкую аўдыторыю: першая частка адрасуецца навучэнцам сярэдняй школы, другая — самым маленькім чытачам.**

Да таго ж, «аўтарскія легенды», прысвечаныя збольшага воднай стыхіі, выдаваліся нядаўна асобнай кнігай у серыі «Вясёлы калейдаскоп» Выдавецкага дома «Звязда».

Але нас цікавяць творы з першай часткі кнігі — апавяданні «Я і Славік Сымановіч», «Код геніяльнасці», «Новая гісторыя пра папарацьь-кветку», «…І непарыўнае ірвецца!» (аўтарка чамусьці назвала іх аповесцямі).

Як і кожны дзіцячы аўтар, спадарыня Кацярына выяўляе жаданне набліжацца да свайго чытача: часам гэта атрымліваецца, часам — не. Напрыклад, апісваючы аднаго з другарадных герояў, Кацярына Хадасевіч-Лісавая ўжывае выраз «сапраўдны мача з паўднёвай краіны». Здавалася б, выраз мусіць падацца свойскім падлетку, які возьмецца чытаць гісторыю кахання сваіх аднагодкаў. Аднак ёсць адно «але»: чытаць гэтую аповесць будуць такія падлеткі, якія падобныя выразы наўрад ці ўжываюць, прынамсі, усур'ёз. Тыя ж, у чый актыўны лексікон падобныя словы ўваходзяць, гартаюць ад сілы глянцавыя часопісы, але ніяк не сучасную беларускамоўную літаратуру. Спадарыня Кацярына яшчэ маладая аўтарка і, думаецца, з часам усвядоміць, як важна бачыць перад сабой мэтавую аўдыторыю.

Часам, апісваючы герояў і стасункі між імі, пісьменніца не шукае адметнасць, нечаканае параўнанне, але ўжывае выразы, якія амаль ператварыліся ў штампы: «ён, нібы магніт, прыцягвае дзяўчат», «дзяўчат вабіў, як агонь матылькоў». Відавочна, яны не маюць мастацкай каштоўнасці і мала ўпрыгожваюць у цэлым чытэльны і цікавы твор. Канечне, ні ў якім разе не адмаўляецца тое, што падлеткі здольныя адчуваць падобнае, як не адмаўляецца і пісьменнікам у праве апісваць такія пачуцці і адчуванні. Наадварот. Але пытанне — не «пра што», а пра «як». Да таго ж, пачуцці гэтыя больш тонкія і заслугоўваюць нечага большага, чым «прыцягваў, як магніт».

Пры ўсім тым пісьменніца ад самага пачатку, з апавядання "Я і Славік Сымановіч", узяла вельмі ўдалую інтанацыю, стварыла патрэбны настрой. Хоць яна і апавядае пра першае каханне ад асобы дзяўчынкі, мы ўсё адно адчуваем стаўленне самой аўтаркі да падзей: вельмі цёплае, крыху іранічнае і бязмерна спагадлівае. З замілаваннем яна апісвае гісторыю, па сутнасці, банальную. Але, нягледзячы на тое, што падобныя драмы разгортваюцца штодзень, менавіта гэтая гісторыя робіцца асаблівай дзякуючы стаўленню да яе аўтара. Дзяўчаты, якія прачытаюць твор, адчуюць, што іх разумеюць, адчуюць, зноў жа, спагаду і падтрымку. Гэта дапаможа не толькі перанесці такое страшнае выпрабаванне, як першае каханне, але і застацца чалавекам з добрым сэрцам, не ператварыцца пры няўдачы, — а яна амаль непазбежная — у цыніка. Але апавяданне «Я і Славік Сымановіч» заканчваецца хэпі-эндам. Пэўна, так і павінна быць.

Тая ж тэма — першае каханне і яго пакуты — працягваецца ў апавяданні «Код геніяльнасці». Сітуацыя, якую апісвае спадарыня Кацярына, знаёмая кожнай школьніцы: у старэйшыя класы прыйшлі «новенькія», і сярод іх ёсць адзін самы-самы, адзіны і непаўторны, які авалодвае сэрцам і розумам добрай паловы дзяўчат.

Сутнасць твора заключаецца ў адным трапным сказе: «Пакуль сяброўка рашала на дошцы матэматычную задачу, Іра думала над жыццёвай». Так, у актуальнасці апавядання сумнявацца не даводзіцца: тут не толькі першае пачуццё, але і барацьба сэрца з розумам (у выпускных класах яна набывае асабліва трагічнае адценне). Хто не пазнае сябе ў радках «На літаратуры чыталі вершы беларускіх паэтаў пра каханне. Ірыне здавалася, што ўсе яны гучалі для яе. Цікава, ці піша вершы Саша?..»?

Дадамо, што апаведы Кацярыны Хадасевіч-Лісавой могуць быць карыснымі не толькі для дзяўчат, але і для хлопцаў, калі тыя маюць рызыкоўны намер разабрацца ў перажываннях і багатым унутраным свеце дзяўчат.

Апавяданні з «Кода геніяльнасці» не толькі рамантычныя, але і містычныя, часам — фантастычныя. Так, аднаймення аповед у пэўны момант пераходзіць мяжу рэальнасці, і аўтарка пачынае разважаць пра спадчыннасць і пераемнасць лёсаў, сам лёс і інш. Не можа не ўзнікнуць пытанне, наколькі гэта мэтазгодна і наколькі натуральна выглядае. Ствараецца ўражанне, што аповед распадаецца на дзве часткі, якія мала стасуюцца між сабой, нягледзячы нават на сюжэтную звязанасць. Але чытач мусіць сам для сябе вызначыць, плюс гэта ці мінус. Між тым безумоўна ўдалы ход — адкрыты фінал. Здавалася б, гісторыя, што адбылася з галоўнай гераіняй Ірынай, сапраўды адбылася. З іншага боку, усё гэта магло аказацца ўсяго толькі сном, фантазіяй, хоць і вельмі праўдзівай і нават прароцкай. Тут чытач таксама ставіцца перад выбарам.

Тэма пазасветнага развіваецца ў аповедзе «…І непарыўнае ірвецца!». Тут размова ідзе пра роднаснасць душ, іх паяднанне, духоўную сілу, змаганне са злом — і прыводзіць гэты ланцужок на парог царквы. Аўтарка сцвярджае, што злы дух (у літаральным і, відаць, метафарычным сэнсе, бо іначай твор прыкметна губляе ў мастацкім плане) можна перамагчы з дапамогай рэлігіі. Менавіта рэлігіі: гаворка не ідзе пра веру, адасобленую ад царкоўнага антуражу. Так, змучаная злым духам загінуўшай сястры, дзяўчына прыходзіць у храм, дзе ёй дапамагае — адразу ж — святы айцец (ёсць у гэтым эпізодзе лёгкае рэха экзарцызму). Ні да каго іншага дзяўчына не звяртаецца па дапамогу: ні да псіхолага, ні да сябровак (іх у яе няма), ні да маці. Сама Багародзіца (як потым высветліцца) прыводзіць яе ў храм, дзе, як звычайна, пахне ладанам, стаяць свечкі, дух урачыстасці і ўзвышаны. Такое бачанне,




адкрытая ўпэўненасць ва ўсемагутнасці царквы, надзяленне яе ўласцівасцямі духоўнай панацэі незаўважна вяртае нас у сярэднявечча, дзе царква была адзіным паратункам чалавека. Вы скажаце, я перабольшваю, але перад тым як сцвярджаць гэта, прачытайце апавяданне «…І непарыўнае ірвецца!».

Адводзіць аўтару пэўную ролю вельмі рызыкоўна, бо акурат у той момант, калі ты называеш яго аўтарам твораў для падлеткаў, ён можа ўзяцца пісаць крывавыя дэтэктывы. І ўсё ж відавочна, што Кацярына Хадасевіч-Лісавая найбольшага поспеху дасягнула з рамантычнымі гісторыямі для дзяўчат-старшакласніц. Своеасаблівае дзіцячае бачанне, якое пісьменніца захавала, дазваляе ёй гаварыць на мове, зразумелай сярэднестатыстычнай 17-гадовай дзяўчыне. І гэта толькі дапаможа аўтарцы заняць яшчэ больш упэўненыя пазіцыі ў акрэсленай нішы — пры ўмове, што яна паставіцца да працы з крыху большай самакрытычнасцю.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Казачны дэбют

**Выдавецкі дом «Звязда» працягвае серыю дзіцячых кніг «Вясёлы калейдаскоп». Не сакрэт, што звяры ў дзіцячых казках размаўляюць, паводзяць сябе, як людзі, маюць тыя ж праблемы і пачуцці, што і мы, а часам нават ваююць з цёмнымі сіламі.**

Але такога яшчэ не было.

Літоўскі пісьменнік Яронімас Лауцюс напісаў кнігу «Як вецер запальвае агні», у якой звяры будуюць гідраэлектрастанцыю, затым — прыладжваюць генератар да старой сасны, каб з дапамогай ветру запаліць святло ў вавёрчынай хатцы, а чарапаха ў гэтай кнізе перасоўваецца з дапамогай сонечна батарэй. Галоўнымі героямі ды ініцыятарамі нечаканых лясных рэформаў сталі бабры.

Пісьменнік-інжынер тлумачыць дзецям на канкрэтных прыкладах, з даволі падрабязным апісаннем, як працуе той ці іншы механізм, як атрымаць энергію з ветру, вады і сонечнага святла. Што не менш важна, ён тлумачыць таксама і значнасць такіх «рэформаў», якія, натуральна, трэба было б правесці шырэй і ў свеце людзей.

Канечне, нельга не заўважыць, што такія «тэхнічна-практычныя» казкі вельмі і вельмі далёкія ад характва твораў




Андэрсена ці жудаснай прыгажосці казак братоў Грым; гэтак жа далёка ім і да вясёлых народных казак. Але менавіта ў якасці прыкладу, тым больш цікавага, сапраўды зразумелага, кніга, безумоўна, патрэбная. Усе разумеюць, што сёння, калі прыродных рэсурсаў становіцца ўсё меней, трэба было б паклапаціцца і пра экалагічнае выхаванне. У гэтым плане кніга Яронімаса Лауцюса «Як вецер запальвае агні» можа стаць доўгачаканым першым крокам.

Цудоўным адкрыццём сталася кніга «Цікаўная вустрыца» — літаратурны дэбют Вікторыі Сянкевіч, дасюль вядомай у якасці тэлевядучай.

Спадарыня Вікторыя выявіла вельмі чуйную і ўважлівую да навакольнага свету душу — душу казачніка. Для яе не існуе мёртвых рэчаў — толькі незаўважаныя, як не існуе і дробязей — усё на свеце




мае значэнне, і нельга пераацаніць ролю старога, забытага светам вітража, самага звычайнага падшклянка, што вандруе ў самым звычайным цягніку, ці срэбнай лыжачкі. Усё мае прадвызначэнне, а галоўнае — пачуцці.

Казачніца прамаўляе ісціны даўно вядомыя: трэба шанаваць час, кожную яго хвіліну; пакуты нараджаюць характво; і няўпэўнены можа спраўдзіць сваё наканаванне (на тое яно і наканаванне), і, толькі пераадолеўшы страх, можна дасягнуць новай вяршыні. Але ўсё гэта прамаўляецца надзвычай спакойна, галасам ціхім і ўпэўненым, з разважлівасцю амаль даасісцкай. Да ўсяго — маленькія ісціны, на якіх грунтуецца свет, падаюцца ў абсалютна новай форме. Стрыманая інтанацыя захоўваецца цягам усёй кнігі, і пэўная адстароненасць дазваляе аўтарцы ўтрымацца ад лішніх параўнанняў, недарэчных эмоцый і недаравальнага ментарскага тону.

У выніку мы атрымліваем восем гісторый — выкрышталізаваных, завершаных, адшліфаваных, — падобных да халодных перлінак, што нанізваюцца на тонкую чырвоную нітку ў руках апавядальніка.

Нельга сказаць, што стыль аўтаркі бездакорны (перадусім маецца на ўвазе натуральнасць: адчуваецца яшчэ пэўнае жаданне быць вытанчанай, але не сама вытанчанасць), аднак дэбют атрымаўся болей чым удалы.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# Дзед Манюкін не салжэ

**У немцаў ёсць барон Мюнхгаўзен, за што яны дзякуюць Рудольфу Эрыху Распэ, у французаў — Панург, за што яны дзякуюць Франсуа Рабле, а ў нас ёсць дзед Манюкін, за што мы мусім падзякаваць Васілю Шырко.**

Яшчэ ў 1990 годзе выйшла яго кніга казак «Дзед Манюкін не салжэ». Сёлета Выдавецкі дом «Звязда» выпусціў яшчэ адну яго кнігу — «Дзед Манюкін і ўнукі», дасціпную, надзвычай жывую і самую што ні на ёсць беларускую.

Што ж яднае названых літаратурных герояў, сімвалы розных нацый, з дзедам Манюкіным? Як славуты нямецкі барон, наш дзед любіць прыхарашыць аповед, дадаць яму рыс фантастычных, тым самым робячы з сябе героя. Але пры гэтым дзед Манюкін не зазнаецца: ён адначасова пакепліваe з сябе, са сваіх гісторый і са слухача, які паўстае занадта даверлівым ці, наадварот, разважліва-занудным. У кожнай яго прыдумцы — ад стасункаў з нячыстай сілай да неверагодных побытавых гісторый — ёсць вялікая мудрасць, прыхаванае зерне праўды — з яго можа вырасці якое заўгодна квяцістае дрэва. Той, хто хоча ўбачыць адно яркія фарбы, убачыць толькі дрэва, выпешчанае аўтарам з любоўю і павагай; той, хто шукае ў казках мудрасць, падказку, адгадку на даўняе сваё пытанне, — здолее разгледзець самое зерне.

I сам дзед Манюкін прыгадвае славутага калегу: «Ужо да чаго праўдзівы быў Мюнхгаўзен, але і той, калі зойдзе гаворка пра паляванне, нядорага возьме, каб збрахаць. І ў аленя вішнёвымі костачкамі




страляе, і качкі ў яго самі ў печ трапляюць, скубуцца і смажацца… Я паважаю Мюнхгаўзена, ды, мусіць, наблытаў ён, як і ўсе паляўнічыя. Калі ёсць на свеце хоць адзін сумленны мыслівы, то гэта, несумненна, я, Манюкін».

Прыгадаем Панурга, які ніколі не лезе па слова ў кішэню; не робіць гэтага і дзед Манюкін. Яго мова ніякім чынам не нагадвае сцёртыя за доўгім карыстаннем медзякі. Наадварот: яна віруе і іскрыць, як лексічная Ніягара, так што і пасля таго, як вы закрыеце кнігу (і зробіце гэта з неахвотай), увушшу яшчэ доўга будзе шумець гэты вадаспад.

Толькі здаецца, што казкі дзеда Манюкіна стылізаваныя пад народныя. Насамрэч яны грунтуюцца не столькі на фальклоры, колькі на самім жыцці, і мова дзеда — не стылізацыя, а непасрэднае перайманне. Гэта мова не народных казак, а народа. Розніца між імі відавочная: мова казак закасцянелая, яе звароты — абавязковыя і непарушныя формулы, і сама іх будова мае ў аснове адзін і той жа шкілет з нявялікімі варыяцыямі, што накладае адбітак на цягліцы — словы.

Мова дзеда Манюкіна (а значыць, аўтара) не толькі да болю знаёмая, але і абсалютна непрадказальная. Пры гэтым феерычны дзед паўстае перад чытачом не як міфічная істота з далёкай мінуўшчыны, але як асоба рэальная. На гэта працуюць і пэўныя часавыя згадкі, і лексіка, аздобленая дыялектызмамі і элегантным глянцам трасянкі, які не псуе ні твор, ні вобраз апавядальніка. Пад часавымі згадкамі маюцца на ўвазе словы, якія прывязваюць дзеянне да нашага часу. Так, замест класічнага «гэта было за царом Гарохам» дзед Манюкін пачынае аповед з «то, Гараська, даўно было, яшчэ да калгасаў». Наракаючы на моладзь, якая, натуральна, занадта легкадумная, дзед зазначае: «Вунь былі ў модзе крымплены-мулены, розныя балоневыя плашчы — вецер свішчы. А цяпер за чым ганяюцца?.. За льнянымі кашулямі, за аўчыннымі кажухамі…» Пра сучаснасць сведчыць і пачатак кнігі: «Раней нячыстай сілы — ведзьмаў розных, пярэваратняў, вурдалакаў было, не раўнуючы, як тых уюноў у старой копанцы. Яно і зразумела, паначаплялі цяперака дратоў, антэны развесілі, электрыка ноччу на слупах гарыць, вось і баяцца нячысцікі падступіцца: смальне токам, чаго добрага, дык адны ножкі ды рожкі застануцца. Ці не лепш тырчаць у балоце, якое яшчэ не паспелі асушыць, і не рыпацца?..» Так, не толькі смех, падобны да раблезіянскага, гучыць у казках дзеда Манюкіна, але і сум, прыхаваны ад легкадумнага чытача і заўважны чытачу ўдумліваму.

Акрамя непаўторнай мовы, беларускага дзеда Манюкіна з французам Панургам яднае здольнасць адступіць, дзе трэба, і схітрыць, калі выгадна. Калі першы выяўляе гэтыя таленты падчас прыгод і падарожжаў, то другому даводзіцца верыць на слова, бо інакш як з расповедаў пра прыгоды дзеда Манюкіна мы не маем магчымасці даведацца. Але ж дзед Манюкін не салжэ.

Вам, напэўна, таксама прыйшоў на розум яшчэ адзін літаратурны герой — Несцерка. Калі б ён дажыў да нашых дзён і абзавёўся процьмай унукаў, то цалкам мог бы пазычыць папулярнасці ў славутага дзеда.

Васіль Шырко спалучае старадаўне-народнае і сучаснае: так сустракаюцца крэмень і крэсіва, высякаючы агонь, і ў творах Васіля Аляксандравіча гэты агонь — гумар, які мае вялікую жыццядайную сілу. Падобнае ўражанне пакідае кніга Пятра Васючэнкі «Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі».

Цікава, што ў Васіля Шырко быў свой «дзядзька Антось», свой натхняльнік, прычым не адзін. Пра іх можна пачытаць ва ўспамінах пісьменніка: дзед Мікля, які «на ераплане ў разведку лётаў»; дзед Паўлуша, які фатаграфаваўся з Леніным, ды «цыгане, каб іх качкі ўбрыкнулі, сцібрылі» фотаздымак; дзед Марцінкевіч, які прывёз з вайны песню, што стала ўва ўсіх суседніх вёсках хітом. Дарэчы, і ўжо згаданы Рабле ствараў свой шэдэўр з народных баек.

Застаецца зазначыць толькі, што для ўсякага выдавецтва такая кніга — удача, як і для ўсякага чалавека, які збірае хатнюю бібліятэку. Прычым далёка не дзеці з'яўляюцца мэтавай аўдыторыяй кнігі «Дзед Манюкін і ўнукі», хоць і ім будзе надзвычай карысна паслухаць жывое, праўдзівае, хлёсткае слова, якое ў рафінаваным грамадстве на вагу золата.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Прырода на паперы




Кніга Галіны Шылкінай «Заечая навука» — традыцыйны зборнік дзіцячых вершаў, галоўныя героі якіх часцей за ўсё — лясныя звяры і хатнія жывёлы. Распавядаецца пра рэчы і з'явы, якія акаляюць дзіця ад самага яго нараджэння: кветкі, змена часін года, прыродныя пераўтварэнні і г. д.

Аўтарка прыйшла да творчасці праз педагагічную дзейнасць, што здараецца даволі часта. Раней яе вершыкі друкаваліся ў часопісе «Качели».

Творы ў кнізе «Заечая навука» ўкладзеныя такім чынам, каб у выніку, калі апошняя старонка будзе перагорнута, ва ўяўленні маленькага чытача ўтварылася цэласная карцінка. Так, спачатку аўтарка распавядае гісторыі пра жывёл, прычым кожная гісторыя мае на мэце даць чытачу новыя веды. Напрыклад, вершык «Цікаўны Барбос» тлумачыць, што нос ёсць і ў качкі, хоць ён зусім не падобны на чалавечы і нават сабачы, а ў творы «Рыбы рабілі зарадку», падобным да лічылкі, пералічваюцца найбольш распаўсюджаныя віды рыб. Так, падчас гульні дзіця са смехам адкрые для сябе навакольны свет.

Далей героямі вершыкаў становяцца самі дзеці. Іх прыгоды немудрагелістыя — запусціць папяровы самалёт, намаляваць казку, дапамагчы маме прыбрацца ў кватэры, — але няўрымслівыя. Яшчэ не ўнармаваная сярэдняй адукацыяй фантазія і такія прыгоды ператварае ў маленькія, а ўсё ж Адысеі.

Пасля мы зноў вяртаемся ў свет прыроды. Зіма, вясна, лета, восень праходзяць перад чытачом на нешматлікіх старонках кнігі, раскрываючы свае таямніцы ў поўным іх харастве. Вершы распавядаюць, як і дзе зімуюць звяры, навошта лісе белы кончык хваста, як «сябруюць» зайцы і ваўкі... Як і мае быць, часцей за ўсё звярам надаюцца чалавечыя рысы, што дапамагае чытачам спазнаць жыццё самой прыроды, як бы памяняцца месцамі з ляснымі жыхарамі і, такім чынам, навучыцца спачуваць ім, ставіцца з належнай павагай да ўсяго жывога. Нават больш: антрапамарфуюцца і самі Зіма, Лета, Мяцеліца і інш. Асабліва адчувальны казачны дух у творах, прысвечаных зімняй поры — з яе снягамі, узорамі на вокнах і Новым годам.

Асобнае месца варта адвесці так званым пацешкам-чатырохрадкоўям, у аснове якіх — альбо цікавае назіранне, альбо жарт. Не ўсе пацешкі аднолькава дасціпныя, але ёсць і ўдалыя варыянты, якія пры жаданні можна завучыць на памяць.

**Магда ПАСКЕВІЧ**

# Графін, муж графіні

Думаецца, Уладзімір Мазго як дзіцячы аўтар не мае патрэбы ў асаблівым прадстаўленні.

Яго новая кніга — «Сланы з Поўні» — выйшла ў Выдавецкім доме Звязда. Праўда, творы, што складаюць новую кнігу, — гэта пераклады з беларускай мовы, якія спраўдзіў Генадзь Аўласенка. Таму настойліва раю: калі аўтар вам спадабаецца — набывайце яго творы яшчэ і ў арыгінале.

У выданне гэтым разам увайшлі творы розных жанраў: вершы, скорагаворкі, анаграмы, казкі і каламбуры. Нягледзячы на такую разнароднасць, іх аб'ядноўвае заўсёдны гумар пісьменніка і дабрыня, з якой спадар Уладзімір глядзіць на свет. Часам гэты гумар пераходзіць у самаіронію, якая толькі падкрэслівае майстэрства пісьменніка:

— Стой!
Плывём на теплоходе
Прямиком на риф мы!
— Не волнуйся,
Это вроде
Только
Ради рифмы!




Застаюцца пры аўтару і адметная лаканічнасць — радок, які змяшчае больш за тры словы, вялікая рэдкасць у кнізе. Застаецца і любоў да гульні з гукамі — алітэрацый і асанансаў, якія робяць вершы гучнымі, запамінальнымі і разам з тым — больш цікавымі (сведчыць пра гэтую любоў сама назва зборніка). Аднак аўтар умее жангліраваць не толькі гукамі, але і словамі і іх сэнсамі. На гэтым прынцыпе будуюцца лепшыя з твораў, што ўвайшлі ў кнігу («Каго лечыць акуліст?», «Смяшынка», «Непісьменны турнікет» і інш.):

Если муж княгини —
Князь, —
Рассуждает здраво
Ясь, —
Вывод следует
Один:
У графини муж —
Графін.

Нягледзячы на тое, што кніга рускамоўная, яна відавочна беларуская: шмат вершаў прысвечана гарадам Беларусі і рэкам; ёсць творы і гістарычнай тэматыкі, і нават верш, прысвечаны Янку Маўру. Ва ўсіх герояў вершаў — канечне ж, гэта дзеці — падкрэслена беларускія імёны (*Мікола* замест *Николая*, напрыклад). Каламбуры, пра якія распавядае чытачам аўтар, выглядаюць натуральнымі, то бок узятымі з жыцця, а не прыдуманымі ў выніку шматгадзіннага пакутлівага сядзення за сталом. Ці так яно насамрэч, ведае толькі аўтар, але ў любым выпадку творы атрымліваюцца жывымі, а значыць, яны абавязкова знойдуць чытача.

Асаблівай увагі заслугоўвае праца мастачкі Рыты Цімохавай, дзякуючы якой лепшыя якасці кнігі — ужо названыя дабрыня і светлы смех — падкрэсліваюцца, набываюць бачнае ўвасабленне. Мастацкае афармленне і літаратурная частка ствараюць кніжную гармонію, а гэта не так і часта здараецца, у тым ліку ў дзіцячай літаратуры.

**Наста ГРЫШЧУК**



# Год Махтумкулі — падзея, якая зближае

**2014 год абвешчаны ў Туркменістане Годам Махтумкулі. На гэтым тыдні ў Беларусь з візітам наведаўся Прэзідэнт Рэспублікі Туркменістан Гурбангулы Бердымухамедаў. Гэтыя акалічнасці і сталі нагодай для невялікай размовы нашага карэспандэнта з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Туркменістане Алегам Табанюхавым.**

**— Алег Міхайлавіч, наколькі знакавае імя Махтумкулі для сучаснага чытача Туркменістана?**

— Гэта найпершы, найбуйнейшы класік, да якога ставяцца з велізарнай пашанай на ўсіх узроўнях, сярод розных сацыяльных груп насельніцтва. Паэўна, уплываюць на тое і традыцыі велізарнейшай павагі да нацыянальнай культуры, да даўняй гістарычнай памяці. Махтумкулі, якога яшчэ называюць Вялікім Фрагі, — знакавае імя для ўсіх туркменаў. Рэдкі, відаць, насельнік гэтай краіны не знаёмы з паэтычнымі радкамі Вялікага Фрагі. Што заўважна, моладзь добра ведае на памяць вершы Махтумкулі. А ў наш век, калі чытанне папяровай кнігі выходзіць з моды, гэта, пагадзіцеся, яскравы паказчык.

**— Што Беларусь, у прыватнасці, зрабіла для асэнсавання гэтага знакавага ў гісторыі туркменскай культуры і гісторыі персанажа?**

— У Мінску выдадзена вялікая кніга выбраных твораў вялікага Махтумкулі на беларускай мове «З кубка вечнасці мёд». Дарэчы, з уступным словам Прэзідэнта Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедава. Большасць перакладаў належыць добра вядомаму паэту Казіміру Камейшу. Арганізаваў гэты творчы праект паэт, празаік Ганад Чарказян. Адкрываецца кніга вершам, дзе гучаць і такія радкі: «Братэрства тут — звычай, а дружба — закон / Для кожнага роду, для мужных плямён…»

А літаральна два тыдні таму ў Ашхабадзе была прэзентавана кніга твораў Махтумкулі на мовах свету. Удзельнічалі ў ёй і беларусы, якія прадстаўлялі Міністэрства інфармацыі нашай краіны на традыцыйнай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы. На прэзентацыі выступілі дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч, кнігавыдавец, кіраўнік прадпрыемства «Макбел» Дзмітрый Макараў. Дык вось у той кнізе змешчаны і даўні пераклад верша «Лёс туркмена», ажыццёўлены яшчэ Уладзімірам Караткевічам. Ведаю, што за савецкім часам гэты пераклад Уладзіміра Караткевіча друкаваўся ў зборніку аднаго верша Махтумкулі на мовах народаў свету. Увогуле, перакладчыцкія памкненні — адзін з галоўных кірункаў у збліжэнні розных літаратур і розных культур. Спадзяюся, што паміж Беларуссю і Туркменістанам гэтая работа будзе развівацца і пашырацца. З Туркменістанам звязаны лёсы многіх беларускіх пісьменнікаў. У другой палове 1940-х гадоў некаторы час у Ашхабадзе жыў празаік Барыс Мікуліч. Пра гэта ён расказаў у «Аповесці для сябе». Ёсць там, між іншым, і яго згадкі пра Махтумкулі. Да асэнсавання Вялікага Фрагі спрычыніліся ў свой час Максім Танк, Алег Лойка. Яны наведвалі Ашхабад, іншыя мясціны Туркменістана.

Мне здаецца, што можна было б нават выдаць анталогію твораў беларускіх пісьменнікаў, дзе яны пішуць пра Туркменістан. Лічу, што гэта было б важкім унёскам у дружбу народаў нашых краін. Аўтарамі такой кнігі сталі б Янка Сіпакоў, Аркадзь Марціновіч, Мікалай Калінковіч, Васіль Ткачоў, Міхась Карпенка, Павел Марціновіч, Алег Буркін, Любоў Філімонава, Любоў Турбіна, Віктар Шымук, Алег Лойка, Максім Танк… Дарэчы, падоўгу ў Каракумскім краі жылі і працавалі Мікалай Калінковіч, Міхась Карпенка, Васіль Ткачоў. А празаік Аркадзь Марціновіч прысвяціў Туркменістану свой ваенны раман «Не пакідай слядоў сваіх».

**— Не забыцца б і пра Аляксандра Ходзьку…**

— З яго і пачаць. Як вядома, гэты даследчык, падарожнік XIX стагоддзя, ураджэнец Беларусі, адкрыў свету Махтумкулі, надрукаваўшы яго творы ў Еўропе больш як паўтара стагоддзя таму. Асоба Аляксандра Ходзькі, безумоўна, вартая болей шырокай згадкі і ў Туркменістане, і ў Беларусі. У гэтым рэчышчы хацелася б спадзявацца на сучасных пісьменнікаў, гісторыкаў літаратуры. Мо знойдуцца тыя, хто раскажа пра лёс гэтага неардынарнага чалавека і ў беларускай літаратуры, і ў туркменскай… Ды і пра Махтумкулі можна напісаць аповесць, раман камусьці з нашых таленавітых беларускіх пісьменнікаў. Напісалі ж некалі рускія літаратары Морыс Сімашка, Уладзіслаў Бахрэўскі таленавітыя творы пра Махтумкулі! Спадзяюся, што ўвага да творчасці Махтумкулі, як і ўвогуле да туркменскай літаратуры, будзе развівацца і пашырацца не толькі ў юбілейны год.

**Гутарыў Мікола БЕРЛЕЖ**

# З кубка вечнасці...

**У адным з мінскіх выдавецтваў на беларускай мове пабачыла свет кніга паэзіі Махтумкулі «З кубка вечнасці мёд». Адказны за яе выданне — паэт і празаік Ганад Чарказян. З ім і гутарыць наш карэспандэнт.**

**— Ганад Бадрыевіч, з чаго пачалася рэалізацыя такога адметнага творчага праекта?**

— Так склалася, што ў 2012 годзе я ўдзельнічаў у міжнародным фестывалі паэзіі ў Ерэване. Туды мяне заўсёды цягне. Усё ж такі радзіма… Рады знаёмствам, якія адбываюцца на такіх святах літаратуры. Звычайна стараюся кантакты прадоўжыць. Гэта ж цікава — ісці ў шырокі свет, ведаць, што цябе пачулі. І свае дзверы, дзверы нацыянальнага, таксама важна адкрыць для іншых мастацкіх прастораў. У Ерэване пазнаёміўся з туркменскімі даследчыкамі літаратуры. Мяне запрасілі на юбілей Махмуда Палвана ў 2013 годзе. Паехаў у Туркменістан. Пазнаёміўшыся з новай для сябе краінай, захапіўся Каракумскім краем. Я і не ведаў, што пустыня можа так заваражваць. А яшчэ ўразілі навабудоўлі Ашхабада, сённяшняе развіццё гэтай сапраўды багатай краіны. Аказалася, багатай і на шчырае стаўленне да культуры, літаратуры, гістарычнай спадчыны.

Там і ўзнікла ідэя перакласці ў Беларусі паэзію Махтумкулі і выдаць асобнай кнігай. Туркменскі бок пабачыў усемагчымую падтрымку.

**— Але ж у нас няма, здаецца, знаўцаў туркменскай мовы…**

— Туркменскія вучоныя падрыхтавалі акадэмічна выверaныя падрадкоўнікі. Кіраваў гэтай работай ведомы ў Туркменістане літаратуразнаўца Аннакурбан Ашыраў. Я даведаўся, што Махтумкулі перакладалі і раней. У Мінску была выдадзена кніга «Салавей шукае ружу». Дакладна сцвярджаць не магу, але складваецца ўражанне, што перакладалі з рускіх тэкстаў.

**— І гэта не самыя горшыя пераклады. Махтумкулі шмат перакладалі Арсеній Таркоўскі, Шэнгелі…**

— Ніколькі не прыніжаючы працу папярэднікаў, хачу адзначыць: у кнізе «З кубка вечнасці мёд» перакладчыкі бліжэй да арыгінала. За гэта і я, і, адпаведна, арганізатары выдання гэтай кнігі з туркменскага боку павінны быць удзячны Казіміру Камейшу, Віктару Шніпу, Міколу Мятліцкаму, светлай памяці Рыгору Барадуліну...

**— І ён паспеў яшчэ спрычыніцца да рэалізацыі гэтага праекта?**

— Так. Рыгор Іванавіч вельмі ахвотна пагадзіўся перакласці Махтумкулі. Калі мы сустракаліся, шмат гаварыў пра Усход. Ён жа некалі пераклаў і выдаў асобнай кнігай вершы паэтаў Кітая, Карэі, Японіі, В'етнама. Мяркую, што і ў работу над перастварэннем Махтумкулі пабеларуску ўклаў усю сваю душу, усё сваё сэрца, увесь свой талент. Нізкі паклон яму за гэта!

**— Большасць перакладаў у новай кнізе належыць Казіміру Камейшу...**

— Так. Хаця, між іншым, мы ўключылі ў выданне і ранейшыя пераклады, якія належаць Алесю Звонаку, Анатолю Клышку, Алегу Лойку, Уладзіміру Паўлаву, Уладзіміру Шахаўцу, Валянціне Коўтун, Пятру Прыходзьку, Хведару Жычку, Артуру Вольскаму. Усе яны добра вядомы шырокаму колу чытачоў. Усе шмат працавалі на ніве перакладаў.

**— Як у Туркменістане паставіліся да выдання такой прыгожай і з паліграфічнага пункту гледжання кнігі?**

— Па-першае, я ўдзячны за падтрымку Пасольству Туркменістана ў Беларусі, асабіста паслу Мураду Язбердзіеву. У Мінску прэзентацыя кнігі прайшла ў Доме літаратара. Прыехалі на гэтае свята Махтумкулі госці з Ашхабада. Сярод іх — народная паэтэса Туркменістана Газель Шакуліева. Яна чытала свае вершы, вершы Махтумкулі на роднай туркменскай мове.

**— Ведаю, што вас запрасілі і на ўрачыстасці ў Туркменістан...**



— Мы з Казімірам Камейшам удзельнічалі ў святкаванні юбілею Махтумкулі. Дарэчы, нас узнагародзілі ордэнамі Махтумкулі. Гэта ўспрымаю як найвелізарнейшую, самую дарагую ўзнагароду ў жыцці. Разам з намі такой узнагародай Прэзідэнт Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедаў адзначыў кіраўніка ЮНЕСКА Веру Бокаву, Палада Бюль-Бюль аглы. У час святкавання віталі японскую і кітайскую перакладчыц. Туркмены правялі і адмысловае паэтычнае свята ў ашхабадскім скверы «Ільхам», назва якога ў перакладзе на беларускую мову гучыць як «Натхненне». І сапраўды, Ашхабад, Туркменістан натхніў нас на новае засваенне неўміручай спадчыны Махтумкулі, іншых класікаў туркменскай літаратуры.

**Гутарыў Мікола МІРШЧЫНА**

Кніжны свет
**10 кастрычніка 2014 г.**

# Ілья Мурамец у небе

**Мы мала ведаем пра сапраўдныя прычыны той вайны, пра тое, у які момант яна пачалася і якія задачы мусіла выканаць. Нам падаецца дзіўным, што маштабныя баявыя дзеянні, у якія было ўцягнута амаль чатыры дзясяткі краін, многія пісьменнікі і дзяржаўныя дзеячы віталі, успрымалі з радасцю. Рэвалюцыя 1917 года і грамадзянская вайна ў Расіі засланілі падзеі вялікай вайны, з цягам часу нівеліравалі яе значнасць. Тым не менш Першая сусветная засталася ў гістарычных сведчаннях, мастацкай літаратуры, памяці народа.**



*Уладзімір Гніламёдаў знаёміцца з экспазіцыяй «Літаратура і дакументальныя матэрыялы аб Першай сусветнай вайне».*

## НОВЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ І АДКРЫЦЦІ

Сёлета, у час стагадовага юбілею з пачатку Першай сусветнай, многія факты і падзеі вяртаюцца з небыцця, выходзяць новыя кнігі, гістарычныя даследаванні. Так, вынікамі сваіх росшукаў навукоўцы падзяліліся падчас Міжнароднай канферэнцыі «Першая сусветная вайна ў народнай памяці і мастацкім адлюстраванні», што прайшла на гэтым тыдні ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Падчас навуковага форуму закраналіся пытанні пра ролю і наступствы вайны для развіцця культуры еўрапейскіх краін, яе ўплыў на літаратурны працэс і публіцыстыку, развіццё нацыянальнай самасвядомасці народаў-удзельнікаў і фарміраванне духоўна-каштоўнаснай парадыгмы XX ст.

Адметна, што ў цырымоніі адкрыцця канферэнцыі ўзялі ўдзел намеснік Прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік і старшыня Прэзідыума НАН Беларусі Уладзімір Гусакоў, прагучалі прывітанні ад кіраўнікоў шэрагу міністэрстваў краіны, дыпламатычных місій. Пра значнасць правядзення даследаванняў падзей Першай сусветнай казалі рэктар БДПУ імя Максіма Танка, прафесар Аляксандр Жук, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, прафесар Раман Матульскі, першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў. У пленарным і секцыйным пасяджэннях, што прайшлі ў межах форуму, узялі ўдзел больш як сто навукоўцаў з Беларусі, Расіі, Украіны, Вялікабрытаніі і ЗША.

Даклады, якія прагучалі ў межах форуму, распавядалі пра новыя адкрыцці з гісторыі Першай сусветнай. Так, кандыдат гістарычных навук Валянціна Бялявіна закранула пытанні адметнасцей вядзення баявых дзеянняў падчас Першай сусветнай. Валянціна Мікалаеўна распавяла, што ў гады вайны ўпершыню актыўна прымянялася ваенная авіяцыя. Спачатку лётчыкам рэкамендавалі ляцець на праціўніка і кідаць на зямлю цяжкія прадметы, потым экіпаж меў больш дасканалае ўзбраенне — кулямёты і карабіны, пазней у рускіх войскаў з'явіліся адмысловыя ваенныя самалёты, што атрымалі назву «Ілья Мурамец». Падчас Першай сусветнай ужывалі забароненую яшчэ ў канцы XIX ст. хімічную зброю, якая наносіла шкоду салдатам, коням, псавала глебу. Багатая крыніца звестак пра вайну — фотаздымкі. Яны захоўваюцца ў фондах Нацыянальнага гістарычнага музея краіны, ЦНБ імя Якуба Коласа НАН, Слонімскім і Берастаўіцкім раённых краязнаўчых музеях, іншых музеях і прыватных калекцыях.

## КНІГІ РАСПАВЯДАЮЦЬ

Праграма канферэнцыі прадугледжвала не толькі навуковую, але і прэзентацыйную часткі. Так, у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі адбылося адкрыццё кніжнай выстаўкі «Літаратура і дакументальныя матэрыялы аб Першай сусветнай вайне». У межах экспазіцыі, з якой яшчэ цягам тыдня можна пазнаёміцца ў бібліятэцы, прадстаўленыя выданні па гісторыі Першай сусветнай вайны, даследаванні, якія праводзіліся ў розныя гады айчыннымі і замежнымі навукоўцамі, у тым ліку і кнігі, часопісы, што распавядалі пра асноўныя бітвы на тэрыторыі Беларусі. Да прыкладу, часопіс «Нива» за 1916 год з рэпартажам пра «мёртвы» горад Смаргонь, які амаль цалкам быў зруйнаваны.

У фондах ЦНБ НАН захоўваюцца і мемуары, успаміны нямецкіх, рускіх ваенных і дзяржаўных дзеячоў. Асобна выдзелены ўспаміны, дзе згадваюцца менавіта беларускія мясціны. Першая сусветная вайна значна паўплывала і на беларускі літаратурны працэс пачатку XX ст. На выстаўцы змешчаныя кнігі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Алеся Гаруна, у сваіх творах яны адгукаліся на падзеі вайны. Сярод выданняў можна пабачыць творы рускіх, амерыканскіх, нямецкіх і іншых аўтараў, што змяшчаюць водгукі пра Першую сусветную. Тут прадстаўленыя і крытычныя публікацыі беларускіх літаратуразнаўцаў, прысвечаныя даследаванню тэкстаў ваеннага перыяду. Як падкрэсліла Ніна Камароўская, загадчык аддзела абслугоўвання ЦНБ НАН, такіх выданняў становіцца ўсё больш, што сведчыць пра зацікаўленасць



*Слова мае Радзім Гарэцкі.*

навукоўцаў тэмай Першай сусветнай і яе адлюстраваннем у мастацкай літаратуры.

Сёлета спіс выданняў папоўніўся новымі кнігамі. Гэта даследаванні М. Смальянінава «Беларусь у Першай сусветнай вайне 1914 — 1918 гг.» (Мінск: Беларуская навука, 2014), Валянціны Бялявінай «Беларусь у гады Першай сусветнай вайны» (Мінск: Беларусь, 2013), калектыўная манаграфія «Старонкі Першай сусветнай» (Мінск: выдавецтва Міністэрства абароны Беларусі, 2014). Рэвю згаданых выданняў прайшло падчас міжнароднага форуму.

## СА ШЧЫРЫМ СЭРЦАМ

У беларускай літаратуры ёсць выдатны дакументальны твор, напісаны маладым пісьменнікам — удзельнікам Першай сусветнай вайны. Новае выданне аповесці Максіма Гарэцкага «На імперыялістычнай вайне» пабачыла свет сёлета ў Выдавецкім доме «Беларуская навука». Кніга выдадзеная па ініцыятыве доктара геолага-мінералагічных навук, акадэміка Радзіма Гарэцкага, укладальнік і аўтар каментарыяў — вядомы беларускі тэкстолаг, кандыдат філалагічных навук Тэрэза Голуб. У якасці навуковага рэдактара і аўтара прадмовы выступіў доктар філалагічных навук, прафесар Міхась Мушынскі.

Падчас прэзентацыі новага выдання, што прайшла ў межах навуковага форуму, доктар філалагічных навук, акадэмік Уладзімір Гніламёдаў падкрэсліў:

— Гэтая кніга з шэрагу твораў пра Першую сусветную вайну, што напісаны самымі выдатнымі пісьменнікамі Еўропы і Амерыкі — Рэмаркам, Олдынгтанам, Барбюсам, Хэмінгуэем. Па ўзроўні майстэрства, істотнасці чалавеказнаўчага зместу яна ўключае нашу літаратуру ў склад вялікай сусветнай літаратуры.

Думку Уладзіміра Васільевіча падтрымаў Міхась Мушынскі:

— Аповесць «На імперыялістычнай вайне» непаўторная, яна здзіўляе на кожнай старонцы сваёй прадбачлівасцю і наватарствам. Цяжка нават уявіць, што дваццацігадовы малады чалавек так



*Выступае Міхась Мушынскі.*

далёка бачыў і ў гэтай невялічкай кніжцы здолеў узняць столькі праблем, паказаць беларускую літаратуру на высокім мастацкім узроўні. Дакументальнай мастацкай літаратуры ў той час амаль не было. Малады пісьменнік, не абапіраючыся на вялікую традыцыю, змог схапіць і паказаць кірунак для далейшага развіцця літаратуры такой плыні. Аповесць напісаная з вялікай шчырасцю, адкрытым сэрцам і выдатным разуменнем псіхалогіі. Пісьменнік паказаў і ваенны побыт, таму кніга можа быць і крыніцай вывучэння вайны з пункту гледжання гісторыка.

Калі Максім Гарэцкі пайшоў на фронт, яму было ўсяго 20 гадоў. Ён трапіў у Прусію, дзе хутка адбыўся вялікі бой, на якім Гарэцкі заслужыў Георгіеўскі крыж. Але толькі дачка пісьменніка Галіна Максімаўна праз 83 гады атрымала даведку, што яе бацька быў узнагароджаны. На вайне малады пісьменнік быў паранены ў нагу. Ляжаў у шпіталі спачатку ў Вільні, дзе яго цётка была медсястрой, потым у Маскве, Мсціславе, Магілёве. Пісьменнік быў у жудасным стане — не толькі фізічным, але і духоўным. Ён згадваў сяброў, якія гінулі на фронце і... не мог пісаць. Але ўвесь час вёў дзённікі. Можна сцвярджаць, што ўжо ў 1914 годзе Гарэцкі пачаў працу над аповесцю «На імперыялістычнай вайне».

Пра гісторыю выдання аповесці распавёў прысутным Радзім Гарэцкі:

— Пад назвай «На імперыялістычнай вайне» кніга выйшла ўпершыню ў 1925 годзе ў Мінску, але першае поўнае выданне пабачыла свет у 1926 годзе. Лёс гэтай кнігі быў такі ж цяжкі, як і лёс самога пісьменніка. Праз некалькі гадоў пасля выдання аповесці Гарэцкі быў рэпрэсіраваны і трапіў у спіс пісьменнікаў, чые творы патрэбна было знішчыць, таму многія яго кнігі спалілі. Наступнае выданне аповесці выйшла толькі праз 50 гадоў, калі Максім Гарэцкі быў рэабілітаваны. Гэта пераклад Льва Салаўя на рускую мову. Пасля гэтага выйшла яшчэ пяць выданняў аповесці. Асобную ўвагу варта звярнуць на чатырохтомнік твораў Гарэцкага, што выйшаў у сярэдзіне 1980-х. Пры падрыхтоўцы да друку аповесці «На імперыялістычнай вайне», якая ўвайшла ў трэці том, велізарная праца была зробленая тэкстолагам Тэрэзай Голуб. З дапамогай дачкі пісьменніка Галіны Максімаўны яна змагла зрабіць многія папраўкі, бо ў выданні 1926 года сам Гарэцкі шмат перарабіў: у першым было 40 раздзелаў, якія пісьменнік аб'яднаў у 19 частак і даў кожнай новую назву. Выходзіла яшчэ адно выданне, што змяшчала аповесць «На імперыялістычнай вайне» і лісты з фронту, якія сын пісьменніка Леанід пісаў дзядзьку, маці.

Радзім Гаўрылавіч звярнуў увагу і на адметнасці новай кнігі:

— Тут змешчана самае поўнае выданне аповесці, з новымі праўкамі і дапаўненнямі, думаю, такі варыянт хацеў бы бачыць сам Максім Гарэцкі. У новай кнізе шмат фотаздымкаў часоў Першай сусветнай вайны з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. Тут можна пабачыць выяву ваеннага шпіталя, фотаздымак брата Максіма Багдановіча, які таксама быў на фронце, доктара Георга, які лячыў Максіма Гарэцкага.

**Марына ВЕСЯЛУХА, фота аўтара**

# Вайна беларусіста

**Гісторык, літаратуразнаўца Дмытро Дарашэнка (1882 — 1951) у Беларусі ўпершыню заявіў пра сябе публікацыяй «Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне», змешчанай 21 студзеня 1909 г. у газеце «Наша Ніва» (пераклад з украінскай мовы здзейсніў Янка Журба).**



Раней, у 1908 годзе, Д. Дарашэнка выступіў з вялікім аглядам «Білоруси і їх національне відродження» ў трох нумарах кіеўскай украінскамоўнай газеты «Рада», а львоўскае выданне «Руслан» надрукавала яго матэрыял «Відродження Білорусі» ў двух нумарах (1909). Той жа допіс змяшчае і кіеўскі польскамоўны часопіс «Przegląd Krajowy». Да ўсяго публікацыя ўкраінскага вучонага, прысвечаная беларускаму культурнаму адраджэнню, выйшла ў Кіеве яшчэ і асобнай брашурай.

Дмытро Дарашэнка, ураджэнец Вільні, патомак слаўнага казацкага роду гетмана Пятра Дарашэнкі, узбагачаў гісторыка-філалагічныя веды ў Пецярбургскім, Варшаўскім, Кіеўскім універсітэтах. Сёння ва Украіне ўсё часцей звяртаюцца да публікацый Д. Дарашэнкі, напісаных ім у гады эміграцыі ў Заходняй Еўропе, куды навуковец выехаў у 1919 г. З матэрыялаў «Мае ўспаміны» бачна, што менавіта яму належаць беларусазнаўчыя тэксты, змешчаныя ў Палтаўскім выданні «Рідний край»: будучы неафіцыйным рэдактарам часопіса, Д. Дарашэнка друкаваў іх без подпісу.

Склалася так, што ў час Першай сусветнай вайны Д. Дарашэнку давялося стаць адным з кіраўнікоў Усерасійскага саюза гарадоў, які меў за мэту дапамагаць насельніцтву на прыфрантавых тэрыторыях украінскіх і беларускіх зямель. Матэрыялы Д. Дарашэнку з цыкла «Мае ўспаміны…» з беларускага боку выклікаюць цікавасць яшчэ і тым, што побач з ім у час працы з мірным насельніцтвам на прыфрантавых тэрыторыях знаходзіўся беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, педагог І. Краскоўскі.

Першая сусветная вайна, як вядома, прынесла дасюль нябачанае разбурэнне. І забрала вялікія ахвяры не толькі на франтах. У выніку артабстрэлаў і паветраных бамбардзіровак гінулі жыхары гарадоў і вёсак, нішчыліся гаспадаркі ад ваенных дзеянняў. Калізіі вайны праводзілі мяжу між людзьмі адной нацыянальнасці — нішчылася цэласнасць народа.

Сёння мы можам адзначыць, што творы мастацкай літаратуры, прысвечанай тагачасным падзеям, паказалі фальшывасць многіх прапагандысцкіх заклікаў і рэальнасць жахлівай дэгуманізацыі, дэмаралізацыі за глыбіннай сутнасці вайны. У творах украінскіх і беларускіх аўтараў, Максіма Гарэцкга, да прыкладу, мы не знойдзем патрыятычных падыходаў да тэмы вайны, як гэта прагучала ў пэўнай частцы нямецкай, англійскай, французскай і іншых літаратур. Для ўкраінцаў, як і для беларусаў, чужымі былі лозунгі імперыялістычных ідэй, абумоўленыя інтарэсамі вялікіх дзяржаў-антаганістаў.

Д. Дарашэнка як гісторык і сведка падзей пакінуў яскравыя старонкі роздумаў адносна жахлівай сацыяльнай з'явы — бежанства. «Бежанства — які гэта страшны злочын царскай Расіі супраць людзей! Не ведаю, на каго індывідуальна, на чые галовы павінны ўпасці праклёны, слёзы, гібель многіх соцень тысяч людзей. Каму вынясе свой суровы прысуд гісторыя за гэты страшны крывавы грэх, нават з погляду дзяржаўных інтарэсаў самой Расіі?.. Цяжка апісаць, у што вылілася неспадзяванае высяленне мільёнаў людзей, з дзецьмі і хатнім майном (калі пашчасціла яго прыхапіць), з жывёлай сярод хаосу вайсковай эвакуацыі і адыходу велізарных армій. Колькі загінула ад голаду, холаду, хвароб, ад усялякай нястачы! Колькі дзяцей засталося сіратамі, колькі бацькоў і мацерак згубіла сваіх дзяцей! Які безлад стварыў гэты масавы «ісход народа» ў тылу краіны, якія цяжкасці, якія складанасці для дзяржавы — размясціць і гадаваць адарваных ад роднага котлішча і прадуктыўнай працы людзей!» — пісаў Д. Дарашэнка. Бежанцы праходзілі цярністы шлях бясконцых бед, маральнага і фізічнага прыніжэння. Шмат інфармацыі ў працы Д. Дарашэнкі звязана не толькі з украінскімі падзеямі, але і з гісторыяй беларусаў.

Як грамадзянін Д. Дарашэнка быў вельмі занепакоены станам культуры ўсёй еўрапейскай цывілізацыі, якая адчула на сабе трагічныя ці проста негатыўныя наступствы ваенных катаклізмаў. Як народазнаўца, мысліцель, гісторык, палітык ён у 1920-я гг. працуе над каласальнай па аб'ёме манаграфіяй «Славянскі свет», прысвечанай непасрэднаму апісанню славянскіх народаў, выявам іх традыцыйна-побытавай культуры, выяўленчаму мастацтву, літаратуры. На гісторыка-тэарэтычным узроўні вучоны падае гісторыка-культурныя агляды духоўнай культуры славянскіх народаў, закранаючы пытанні іх этнічнай самасвядомасці, псіханацыянальных адметнасцей. Пры гэтым даследчык не пазбягае і складаных момантаў у гісторыі нацыянальных узаемадачыненняў, абапіраючыся на законы этнасацыялогіі, этнапсіхалогіі.

Народазнаўства, як вядома, — сума прыкмет ідэалогіі і веры, эмоцый і пачуццяў чалавека, людзей. У менталітэце народа выяўляецца традыцыйнасць, пашыранасць пэўных рыс нацыянальнага характару; ён закладваецца ў глыбінныя пласты свядомасці і падсвядомасці індывідуума, групы людзей, народа. Менталітэт фарміру-




ецца пад уздзеяннем народных традыцый і сам спрыяе ўсталяванасці гэтых традыцый. Праз сваю сацыяльную сутнасць народазнаўства ўрэшце атрымлівае палітычную афарбоўку і можа станавіцца палітычнай сілай. Заўважым, што вытокі ўкраінскага, беларускага народазнаўства — у адрозненне ад большасці нацыянальных заходнееўрапейскіх — знаходзіліся не ў цыкле геаграфічных навук, а ў фалькларыстыцы, народным мастацтве, літаратуры. Менавіта з адзначаных народазнаўчых канцэпцый выходзіць Д. Дарашэнка як вучоны-славіст.

У 2010 г. у Кіеве выйшла перавыданне згаданай манаграфіі Д. Дарашэнкі пад назвай «Слов'янський світ у його минулому і сучасному». У кнізе даецца фундаментальны агляд гісторыі і культуры адзінаццаці славянскіх народаў — беларусаў, балгараў, велікарусаў, кашубаў, лужыцкіх сербаў, палякаў, серба-харватаў, славакаў, славенцаў, украінцаў, чэхаў. Часавыя параметры агляду — ад старажытнасці да першых дзесяцігоддзяў XX ст. Заўважым, на пачатку XX ст. у славістыцы была прынята канцэпцыя, згодна з якой кашубы лічыліся асобным славянскім народам. Да яе далучыўся і Д. Дарашэнка. Сучасныя навукоўцы ўпісваюць кашубаў у польскі этнас.

Кіеўскі фаліянт, дарэчы, выдатна афармлены. І за гэта трэба выказаць шчырую падзяку выдавецтву «Темпора» і асобна Лесю Бялею, адказнаму за «гісторыю славян у карцінах». На чатырнаццаці старонках кніжнага фармату пададзена ў колеры больш як трыццаць арыгінальных ілюстрацый, што перадаюць няпросты гісторыка-культурны велічны шлях Беларусі да нашых дзён. Чытачы выдання ўбачаць Францішка Скарыну, Сімяона Полацкага і іх творы, Мікалая Радзівіла, Кастуся Каліноўскага і Яна Чачота. Шырока прадстаўлены асоба і творчасць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча праз фрагменты экспазіцыі Музея гісторыі беларускай літаратуры. Шмат месца вылучылі выдаўцы для Янкі Купалы, Якуба Коласа; паказалі некалькі нумароў «Нашай Нівы». Шкада, але чамусьці згубіўся Максім Багдановіч. Тым больш шкада, што мастацкая эліта Украіны лічыць паэта не толькі беларускім, але і ўкраінскім творцам. Цікавай знаходкай афарміцеля лічу тое, што Л. Бялей актыўна выкарыстаў беларускія замалёўкі Напалеона Орды, карціну Ільі Рэпіна з цыкла «Беларусы», а таксама адшукаў для «Слов'янського світу» фота даўнейшых беларускіх карт, гербаў і пячатак.

Праца Д. Дарашэнкі — своеасаблівая славістычная энцыклапедыя. Вучоны імкнецца перадаць непаўторнасць, прыгажосць кожнай нацыянальнай культуры, заклікае ўспрымаць свет ва ўсёй шматколернасці яго нацыянальнай экзістэнцыі, папярэджвае пра небяспеку новага праяўлення імперыялістычных памкненняў асобных дзяржаў, асуджае ўсякія праявы суб'ектыўнай нецярпімасці з боку аднаго народа да іншага, засцерагае ад далейшых ваенных спосабаў вырашэння міжнацыянальных канфліктаў.

Усе працы Д. Дарашэнкі — і ўспаміны гісторыка-палітычнага характару, звязаныя з Першай імперыялістычнай вайной ды яе наступствамі, і культуразнаўчыя даследаванні, — не страчваюць актуальнасці. Творы яшчэ раз нагадваюць: трэба разумець спецыфіку выспявання міжнацыянальных каштоўнасцей, якія адрозніваюць адзін народ ад іншага, робяць кожны народ самавартасным, самабытным і з тым — цікавым усяму свету.

**Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ**

*«Бежанства — які гэта страшны злочын царскай Расіі супраць людзей! Не ведаю, на каго індывідуальна, на чые галовы павінны ўпасці праклёны, слёзы, гібель многіх соцень тысяч людзей. Каму вынясе свой суровы прысуд гісторыя за гэты страшны крывавы грэх, нават з погляду дзяржаўных інтарэсаў самой Расіі?.. Цяжка апісаць, у што вылілася неспадзяванае высяленне мільёнаў людзей, з дзецьмі і хатнім майном (калі пашчасціла яго прыхапіць), з жывёлай сярод хаосу вайсковай эвакуацыі і адыходу велізарных армій. Колькі загінула ад голаду, холаду, хвароб, ад усялякай нястачы! Колькі дзяцей засталося сіратамі, колькі бацькоў і мацерак згубіла сваіх дзяцей! Які безлад стварыў гэты масавы «ісход народа» ў тылу краіны, якія цяжкасці, якія складанасці для дзяржавы — размясціць і гадаваць адарваных ад роднага котлішча і прадуктыўнай працы людзей!»*

**Д. Дарашэнка, «Мае ўспаміны...»**

# Невядомы псеўданім

**Ілья Міхайлавіч Ляўковіч (1880 — 1944) — адзін з самых вядомых слонімскіх паэтаў. Свае творы яшчэ з нашаніўскіх часоў звычайна падпісваў «Гальяш Леўчык». Былі і іншыя псеўданімы, крыптанімы. Іх пералічыў Янка Саламевіч у «Слоўніку беларускіх псеўданімаў» (Мінск, 1983). Але аднаго псеўданіма там не хапае.**

У 1926 — 1928 гадах у Вільні выдавалася газета «Беларускае слова», лаяльная да польскіх улад. Яна жорстка крытыкавала Беларускую сялянска-работніцкую грамаду за сімпатыі да савецкай Беларусі. Была там і сталая рубрыка «Слонімская хроніка», у якой палівалі брудам мясцовых грамадоўцаў. Магчыма, гэта і стала прычынай «атакі», якую правеў на рэдакцыю Гальяш Леўчык пад псеўданімам Тамаш Смех. І, трэба прызнаць, прымусіў яе супраціўнікаў панерваваца.

31 сакавіка 1927 года ў рубрыцы «Паштовая скрынька» рэдакцыя «Беларускага слова» пісала:

*«Тамаш Сьмех (ці Г-ш Л-ык?)... Прызнаемся, што нарэшце Вы нас пераканалі. Бязумоўна, Вашае апошняе пісьмо зьяўляецца шэдэўрам духоўнага стылю, а слоўцы «пякельнікі», «падонкі хуліганскай натуры», «капусьцяныя галовы», «пустыя бочкі ад сьпірту», «чортавы душы», «кароста» і г. д. і г. д. ёсьць бязумоўна пекнымі кветкамі мэтадыстаўскае пропаведзі...».*

Але Гальяш Леўчык працягваў пісаць, абараняючы Слонім і слонімцаў ад нападак віленскага выдання. 17 красавіка 1927 года ў той жа рубрыцы рэдакцыя яму адказала апошні раз:

*«Тамаш Сьмех (Г-ш Л-ык) — калі-ж нарэшце дасьцё нам спакой і кінеце пісаць свае аткрыткі. У тым, што Вы добра ўмееце лаяцца, мы ўжо даўно пераканаліся. Больш Вашых пісьмаў чытаць ня будзем і яны пойдуць проста да кошу».*

Шкада, што лісты «Тамаша Смеха» сапраўды пайшлі «да кошу».

**Сяргей ЁРШ**

# Лаўрэаты. Нашы!

Усерасійскі конкурс кніжнай ілюстрацыі «Аблічча кнігі», заснаваны ў 2008 годзе Федэральным агенцтвам па друку і масавых камунікацыях Расійскай Федэрацыі сумесна з Генеральнай дырэкцыяй міжнародных кніжных выставак і кірмашоў ды аддзяленнем «Кніжная графіка» Асацыяцыі мастакоў графічных мастацтваў Маскоўскага саюза мастакоў, праводзіўся сёлета сёмы раз.

Браць удзел у конкурсе могуць і прадстаўнікі іншых краін. Гэтым правам не прамінулі скарыстацца і беларусы — між іншым, паспяхова. Сярод 123 сёлетніх намінантаў трое з нашых землякоў сталі лаўрэатамі і адзначаны дыпламамі пераможцаў. Валерый Славук — за афармленне кнігі Святланы Лаўровай «Куды скача пеўневы конь?», а Вера Ягоўдзік — за ілюстрацыі да кнігі Вальжыны Морт «Утопія».

У намінацыі «Новыя імёны» дыпламанткай стала маладая беларуская мастачка Анастасія Сакалоўская. Члены журы ацанілі яе дызайнерскае рашэнне па афармленні кнігі вершаў Анатоля Зэкава «Безбілетны Зай», якую ў серыі «Нашым дзеткам» выпусціла выдавецтва «Мастацкая літаратура».

**Марыя БЯРНАЦКАЯ**

# Мігатлівыя карціны

**Выстаўка Рыгора Несцерава «Імкненне да абсалюту» адкрылася ў «Галерэі ДК». «Назва не зусім дакладная, — дзеліцца думкамі з публікай мастак. — Імкнуцца можна да ідэалу, але ён недасягальны. Абсалют — гэта космас, вечнасць, бясконцасць… Свет адзіны — вось у чым сэнс выстаўкі».**



*«Акно». 1969 г.*



*«Тэрыторыя кахання». 1969 г.*

Творчасць Р. Несцерава можна падзяліць на тры перыяды. Да першага належаць карціны рэвалюцыйнага, анархісцкага характару. Работы 1960 — 1970-х гг. кантрасныя, напоўненыя агрэсіяй. Тут дамінуюць жоўты, чырвоны, чорны колеры, рэзкія мазкі быццам «разрываюць» палатно.

Яркі твор, напісаны ў гэты «бунтарскі» перыяд, — «Лабірынт»: хаос цёмна-сініх ліній, выйсця адкуль не бачаць мужчына і жанчына, якія зрабілі першы няўпэўнены крок. Невядома, ці змогуць яны выбрацца з жыццёвай павуціны.

Пачатак другога перыяду творчасці мастака, які ён сам называе «Прыняцце рэальнасці», — 1980-я гг. На жывапісных палотнах — агуркі, бульба, капуста… Нацюрморты «захутыя» шэрай смугой, у іх няма ні яркіх, ні светлых дэталяў. Уражанне такое, быццам перад намі размытыя фотаздымкі.

Новы перыяд прыпадае на пачатак XXI ст. На карцінах — пераход ад рэальнасці да фантазіі, космасу, узнёсласці. Палотны паветраныя, спакойныя, гарманічныя, фантазія і рэальнасць у іх нібыта зліваюцца ў адно.

— Творчасць Рыгора Несцерава — увасабленне паслядоўнага развіцця тэндэнцый сучаснага айчыннага мастацтва. Мігаценне, паглыбленне, «уцягванне» чалавечай душы ў дзівосны свет яго палотнаў — шлях да ачышчэння, рэлаксацыі, — лічыць мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн.

Патрапіць у чарадзейны свет сну і фантазіі можна да 13 кастрычніка.

**Вольга РОПАТ**

# Пра камп'ютар ды Парацэльса

**У верасні на кінаэкраны краіны выйшаў дзіцячы прыгодніцкі фільм «Невераготнае перамяшчэнне» рэжысёра-дэбютанта ў галіне ігравога кіно Аляксандра Анісімава. Аўтар фантастычнай гісторыі, што легла ў аснову фільма, — Рыта Шаграй, у творчай скарбонцы якой сцэнарыі кароткаметражных фільмаў, серыялаў, п'ес. Даўняя мара Р. Шаграй — стварыць захапляльны сюжэт для самых маленькіх — здзейснілася.**

Аляксандр Анісімаў — выпускнік Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў (майстэрня народнага артыста СССР кінарэжысёра Віктара Турава), рэжысёр дакументальных фільмаў «Не спыняцца гадзіны» (1998), «Метафара» (2006), «Званар» (1998). Да мастацкай кінакарціны ён прыйшоў толькі праз трыццаць гадоў, хаця па спецыяльнасці — рэжысёр ігравога кіно. Гэты фільм А. Анісімаў прысвяціў сваім дзецям, якіх у яго пяцёра!

Сюжэт кінастужкі «Невераготнае перамяшчэнне» атрымаўся цікавым, займальным і вельмі прыдатным для сямейнага прагляду. За дзевяноста хвілін глядач разам з юнымі галоўнымі героямі пераносіцца то ў XVI, то ў XXI стагоддзе. На што толькі не пойдуць школьнікі, каб не рабіць хатняе заданне! Не выключэнне і галоўны герой фільма Ваня Фёдараў, які ў выніку сваіх камп'ютарных эксперыментаў замест чаканай праграмы сустракае ў сябе дома няпрошаных гасцей з мінулага, а дакладней — з XVI стагоддзя. Прычым адзін з іх — Філіп Аўрэол Тэафраст фон Гогенхайм, будучы знакаміты доктар медыцыны Парацэльс, чый партрэт вісіць у школьным кабінеце хіміі. Галоўная задача Вані і яго сястры Лізы — паставіць усё на свае месцы, каб доктар паспеў вярнуцца ў мінулае і прадухіліць успышку чумы.

Эпізоды фільма здымаліся ў дварах, парках і нават на сталічным «Коле агляду». А колішні бровар графа Чапскага ў вёсцы Прылукі Мінскага раёна ідэальна падышоў для адлюстравання рэалій XVI стагоддзя.

Галоўныя ролі ў кінакарціне выконваюць мінскія школьнікі. У пошуках юных талентаў рэжысёру давялося аб'ездзіць амаль 40 сталічных школ і гімназій. На здымачнай пляцоўцы дзеці працавалі поплеч з прафесіяналамі. У Парацэльса пераўвасобіўся папулярны тэлевядучы Аляксандр Аўчыннікаў, у настаўніка хіміі — акцёр Аляксандр Жданові́ч, вядомы маленькім тэлеглядачам як Маляваныч. У фільме здымаліся таксама Ганна Харланчук-Южакова, Святлана Сухавей, Іна Савянкова ды іншыя айчынныя акцёры.

**Эльвіра ГАРОШКА**

# Танчыць спраўна

Вечарына, прысвечаная заканчэнню першага курса спецыяльнасці «Традыцыйны беларускі танец», а таксама вакальнага і рамесніцкага курсаў, прайшла ў Мінскай школе традыцыйнага мастацтва.

Толькі дасведчаны чалавек разумее, хто на самай справе гэтыя прыгажуні ў народных строях, зграбныя хлопцы з паясамі і ў белых кашулях з беларускім арнаментам. У аўдыторыі гарэзуюць дзеці, у куце памяшкання заводзяць спеў дзяўчыны… Але ўсё змянілася, калі пачалося прадстаўленне.

Курсам традыцыйнага танца кіруе знакаміты ў нашай краіне этнахарэограф Мікола Козенка, які прысутнічаў на выпускным вечары сваіх выхаванцаў. Чалавек прыязны і адкрыты, Мікола Аляксеевіч адразу адгарадзіўся ад лаўраў кіраўніка імпрэзы, указаўшы на сваю калегу Вікторыю Міхно: «Спадарыня Вікторыя — маці школы традыцыйнага мастацтва і гурта "Туда"». Вікторыя Міхно — дырэктар школы традыцыйнага мастацтва, а таксама выкладчык спеўнага курса. За невялікі адрэзак часу танцоры і спевакі школы — людзі зусім рознага ўзросту, роду дзейнасці і інтарэсаў — паказалі і даказалі, што займаліся тут недарэмна. Заўважым, што вучні школы ўдзельнічаюць у фестывалях, імпрэзах, акцыях і паказваюць добры ўзровень харэаграфічнага і вакальнага майстэрства.

Госці імпрэзы паслухалі народныя песні, пабачылі традыцыйныя танцы, а таксама нацыянальны строй, які зрабіла Надзея Сцепанчук, выпускніца рамесніцкага курса. Гледачы з захапленнем сустракалі кожны нумар удзельнікаў вечарыны. Выступоўцы здолелі не проста адцягнуць увагу прысутных ад штодзённых клопатаў, але і акунуць гледачоў у атмасферу беларускай вёскі, жыцця нашых продкаў.

**Яўген СІНІЧЭНКА**

# Праведнік народаў свету

Польскі Інстытут у Мінску і Музей гісторыі горада Мінска запрашаюць на вернісаж гістарычнай выстаўкі «Ян Карскі. Чалавек свабоды». Экспазіцыя, арганізаваная Музеем гісторыі Польшчы, складаецца з 22 плакатаў, што адлюстроўваюць біяграфію Я. Карскага: гады, праведзеныя ў роднай Лодзі, вучобу ва ўніверсітэце, ваенны час, а таксама пасляваенную дзейнасць. Выстаўка — частка праграмы «Ян Карскі. Няскончаная місія».

Ян Карскі (1914 — 2000) — юрыст, дыпламат і эмісар улад польскай падпольнай дзяржавы падчас Другой сусветнай вайны, сведка Халакосту. Ён двойчы ўваходзіў у Варшаўскае гета, а таксама ў адзін з лагераў смерці, каб прадаставіць свету паведамленні пра знішчэнне яўрэяў на тэрыторыі Польшчы. У 1944 годзе Ян Карскі напісаў бестселер «Я сведчу перад светам. Гісторыя падпольнай дзяржавы» («Аповесць пра дзяржаўныя таямніцы»).

Удзел у фільме «Шоа» (1985 г.) Клода Ланцмана адкрыў для сусветнай публікі Яна Карскага і яго спробу стрымаць Халакост. У 1982 годзе ён атрымаў званне праведніка народаў свету.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2296.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 09.10.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4110.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
14040
ISSN 0024-4686
9 770024 468001